ББК 84Бел1
А 17

Рэцэнзент *У. М. Казбярук*

Укладанне, прадмова і каментарыі
*Р. В. Родчанкі*

Альгерд Абухович (1840—1898) — одна из самых колоритных фигур белорусской литературы XIX столетия. Родившись в знатной дворянской семье, он, однако, становится «мужицким» писателем, участвует в восстании 1863 года, отбывает ссылку в Сибири. Книга издается к 150-летию со дня рождения писателя.

А $\frac{4702120106-035}{М 302(03)-91}$ БЗ 90—90
ISBN 5-340-00840-1

# АЛЬГЕРД АБУХОВІЧ-БАНДЫНЭЛІ

У 1884 годзе ў сваім маёнтку каля Мінска памёр адзін з пачынальнікаў сучаснай беларускай літаратуры Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч. У тым самым годзе з Украіны ў Вільню пераязджае Францішак Багушэвіч, а з-пад Глуска ў Слуцак — Альгерд Абуховіч-Бандынэлі.

Гэта быў невыпадковы збег датаў і назваў гарадоў. Пасля В. Дуніна-Марцінкевіча пачаўся новы перыяд у развіцці нашай літаратуры, найбольш яркімі прадстаўнікамі якога былі Ф. Багушэвіч, А. Абуховіч-Бандынэлі, Я. Лучына і А. Гурыновіч.

У канцы 30-х гадоў мінулага стагоддзя Мінск стаў адным з галоўных асяродкаў рэлігійна-царкоўнага жыцця Беларусі. У 1839 годзе была скасавана Брэсцкая унія. У наступным годзе са Слуцка ў Мінск пераязджае кіраўніцтва беларускай праваслаўнай царквы, пераводзіцца духоўная семінарыя, перавозяцца беларускі цар-звон і іншыя гістарычныя каштоўнасці. Такім чынам у 1840 годзе Мінск становіцца праваслаўнай сталіцай Беларусі. У тыя самыя гады мінулага стагоддзя ў Мінску была пастаўлена першая беларуская опера «Сялянка», лібрэта якой напісаў Дунін-Марцінкевіч. Гэты факт сведчыў, што ў сярэдзіне XIX стагоддзя Мінск побач з Вільняй вызначаўся як адзін з асноўных цэнтраў духоўна-культурнага жыцця Беларусі.

Але абставіны склаліся так, што Мінск не змог адразу ўтрымаць за сабою ролю беларускай неафіцыйнай нацыянальнай сталіцы. Асноўнай прычынай гэтага былі падзеі 1863 года, у выніку якіх частка беларускай прагрэсіўнай інтэлігенцыі была саслана за межы Беларусі, а частка ўзята пад нагляд паліцыі. Сам Дунін-Марцінкевіч у гэты час знаходзіўся пад нагля-

дам паліцыі і вымушаны быў жыць больш не ў Мінску, а ў самім маёнтку. Карацей кажучы, у канцы XIX стагоддзя адным з асяродкаў беларускага нацыянальнага жыцця становіцца і Слуцак.

На пачатку XVII стагоддзя барацьбу супраць гвалтоўнага акаталічвання і апалячвання беларусаў узначаліла слуцкая княгіня Софія Алелькавіч. Слуцкі трайчанскі манастыр узяў на сябе ролю асноўнага цэнтра праваслаўя на Беларусі.

У Слуцку ў той час жылі і працавалі вядомыя вучоныя і паэты. Буйнейшымі культурнымі дзеячамі другой паловы XVII стагоддзя былі Сімяон Полацкі, філосаф і паэт Андрэй Белабоцкі (Белаблоцкі) і асветнік Ілля Капіевіч.

У 1617 годзе быў заснаваны Слуцкі ліцэй. Слуцкія педагогі і вучоныя ў першай палове XVII стагоддзя стварылі шэраг падручнікаў для вучняў і навуковых прац, якія ўнеслі свой уклад у беларускую навуку.

У XIX стагоддзі нарадзілася новая беларуская літаратура. Сярод яе прадстаўнікоў пачэснае месца належыць Альгерду Абуховічу-Бандынэлі.

Заключным этапам у развіцці беларускай дваранскай (шляхецкай) літаратуры, які пачаўся з творчасці Равінскага, была творчасць Альгерда Якава Абуховіча-Бандынэлі і Францішка Бенедыкта Багушэвіча. Са з'яўленнем іх на ніве беларускай літаратуры адначасова загаварылі два асноўныя нашы дыялекты (паўднёвы і паўночны). Гэта была новая з'ява, якая лішні раз даводзіла, што наша мова не рускі ці польскі дыялект, а самастойная мова са сваімі дыялектамі і гаворкамі.

Альгерд Якаў Рышардавіч Абуховіч-Бандынэлі нарадзіўся ў заможнай і радавітай шляхецкай сям'і 25 ліпеня (6 жніўня) 1840 года ў маёнтку Калацічы Бабруйскага павета Мінскай губерні (цяпер Калацічы ўваходзяць у Барысаўшчынскі сельсавет Глускага раёна Магілёўскай вобласці).

Род Абуховічаў даў некалькі пісьменнікаў. Напрыклад, ваяводу Смаленскага Піліпа-Казіміра Абухо-

віча мы больш ведаем у сатырычным асвятленні па творы Цыпрыяна Камунякі «Ліст да Абуховіча». Між тым гэты далёкі сваяк Альгерда Рышардавіча быў не толькі ваяводаю, але і пісьменнікам. Ён скончыў Замойскую акадэмію, пісаў на лацінскай мове вершы, быў добрым прамоўцам. Піліп-Казімір Абуховіч пакінуў і мемуары. Яны друкаваліся на польскай мове. Друкаваліся ў Польшчы мемуары сына Піліпа Абуховіча Казіміра, мемуары Хведара Абуховіча пра падзеі 1665—1700 гг.

Восенню 1852 года бацькі аддалі маладога Альгерда (Ольдзю) у Слуцкую гімназію — старэйшую навучальную ўстанову краіны. Яна працуе з 1617 года да сённяшняга дня (цяпер гэта СШ № 1 горада Слуцка).

Бацькі пісьменніка мелі звыш 3 200 дзесяцін зямлі. Прабабка Альгерда Мар'яна паходзіла з роду графаў Бандынэляў, прадстаўнікі якога перасяліліся ў Рэч Паспалітую з Італіі. І сёння ў Львове захоўваецца архітэктурны помнік, які называюць Дом Бандынэляў. Графскі тытул, як вядома, разам з прозвішчам перадаваўся нашчадкам. Такім чынам — тытул графа і дадатковае прозвішча Бандынэлі... Відаць, бацькоў маладога Альгерда не задаволіла Слуцкая гімназія. У 1855—1856 годзе яны накіравалі свайго адзінага 15—16-гадовага сына ў Жэневу (кальвінскі Рым), дзе ён, відаць, вучыўся ў прыватным пансіёне для дзяцей тытулаваных асоб. Як адзначаў у сваіх мемуарах Альгерд Рышардавіч, у Жэневе адзін раз славуты граф Кавур звярнуў на яго ўвагу. Графа Кавура, які быў на 30 гадоў старэйшы за Абуховіча-Бандынэлі, ён мог зацікавіць толькі таму, што ён, як і Кавур, меў графскі тытул і насіў італьянскае прозвішча.

Праз 3—4 гады Альгерд перабраўся з Жэневы ў Парыж. За 6—7 гадоў жыцця і вучобы за мяжою ён авалодаў англійскай, французскай, нямецкай, італьянскай і іспанскай мовамі. На радзіму Абуховіч-Бандынэлі вярнуўся ў канцы 1862 ці ў пачатку 1863 года ў сувязі з паўстаннем пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага.

Дакументы аб удзеле Альгерда Рышардавіча ў паў-

станні 1863 года пакуль што не адшуканы, і наўрад ці яны будуць адшуканы. І вось чаму. У канцы сваіх мемуараў у раздзеле «Дзяды» пісьменнік успамінае, як глыбокай восенню 1862 года ў Парыжы ён рыхтаваўся з сябрамі да ўзброенай барацьбы. Відаць, калі пачалося паўстанне, Альгерд з гэтай групай сяброў вярнуўся на радзіму і адразу, не з'яўляючыся ў родныя Калацічы, уступіў у атрад паўстанцаў. Гэта акалічнасць давала яму магчымасць пасля разгрому паўстання пазбегнуць рэпрэсій. У Калацічах усе лічылі, што ён у Парыжы... Я правяраў дакументы аб удзельніках паўстання па Слуцкаму, Ігуменскаму і Бабруйскаму паветах, якія захоўваюцца ў гістарычным архіве БССР. Там ёсць звесткі аб удзеле ў паўстанні Напалеона Абуховіча, а пра Альгерда Абуховіча няма ні слова. Пасля разгрому паўстання Альгерд Рышардавіч мог недзе ў знаёмых ці сваякоў перачакаць некаторы час «завіруху» і спакойна вярнуцца дадому ў Калацічы, як гэта зрабіў яго дзед, удзельнік паўстання 1831 года, які тры гады пасля паўстання быў фурманам на Падолі.

У 1986 годзе, працуючы ў Вільнюскім архіве, Генадзь Каханоўскі адшукаў абвестку праўлення Віленскага зямельнага банка аб публічным продажы 15 і 16 снежня 1883 года маёнтка Альгерда Рышардавіча і яго бацькі (Гл.: «Чырвоная змена», 1986, 6 снежня). З абвесткі вынікае, што ў 1883 годзе пісьменнік меў 1 362 дзесяціны зямлі. Уся маёмасць яго ацэньвалася ў 24 294 рублі, а даўгоў налічвалася 13 825 рублёў. Дакументы, адшуканыя Г. Каханоўскім, даюць падставу меркаваць, што Альгерд Рышардавіч з Калаціч пераехаў у Слуцк не пазней канца 1883 — пачатку 1884 года.

У Слуцку Абуховіч-Бандынэлі займаўся літаратурнай працаю, здабываючы сабе сродкі на пражыццё працаю рэпетытара па замежных мовах. Памёр ён (10) 22 жніўня 1898 года. Пахаваны на Слуцкіх гарадскіх могілках па вуліцы імя Чатырнаццаці слуцкіх партызан.

Яшчэ ў гады навучання ў Слуцкай гімназіі, калі

Альгерду было 12—15 гадоў, ён жыў у атмасферы літаратурных пошукаў і інтарэсаў. Пазней, у раздзеле мемуараў «Дзве смерці», расказваючы пра Адама Перасвет-Солтана «з гербу Сыракомляў», пісьменнік адзначыў: «Прабаваў пісаць вершы (Адам Солтан.— *Р. Р.*), але, сустрэўшыся з вострай крытыкай на свае польскія трэны (элегіі,— *Р. Р.*), перакінуўся да пісання сатыры ў беларускай мове, што, трэба прызнаць, удавалася яму рабіць даволі гладка, аднак жа з гэтым крыўся і, чытаючы свае творы, выдаваў за чужыя, перапісаныя ім» (магілу Адама Перасвет-Солтана некалькі гадоў назад я адшукаў на могілках каля вёскі Навасёлкі Старадарожскага раёна).

І хто ведае, ці не пад уплывам Адама Перасвет-Солтана і іншых гімназістаў, якія спрабавалі пісаць творы на роднай мове, узнікла ў яго цікавасць да роднай літаратуры? І хто ведае, ці не адносяцца першыя літаратурныя спробы Абуховіча-Бандынэлі да гадоў навучання ў Слуцкай гімназіі?

6 (19) верасня 1912 года «Наша ніва» паведамляла, што Альгерд Абуховіч абменьваўся беларускімі творамі з Уладзіславам Сыракомлем (Кандратовічам), які памёр 15 верасня 1862 года. Калі пісьменнік сапраўды пасылаў свае творы У. Сыракомлі, то, як відаць, зрабіць гэта ён мог не пазней верасня 1862 года. А калі так, то творчы шлях Абуховіча-Бандынэлі працягваўся з 1862 (год смерці Сыракомлі) па 1898 (год смерці Абуховіча-Бандынэлі). Да таго ж неабавязкова, каб Альгерд Рышардавіч і Сыракомля абменьваліся сваімі беларускімі творамі ў 1862 годзе. Гэта яны маглі рабіць раней. Словам, мы можам сцвярджаць, што на ніве беларускай літаратуры пісьменнік працаваў прыблізна сорак гадоў.

У 1915 годзе ў артыкуле «Белорусское возрождение» М. Багдановіч пісаў: «Ольгерд Обухович, живший в Слуцке и оставивший, кроме массы оригинальных стихотворений, переводы из Мицкевича, Сырокомли, Лермонтова». М. Гарэцкі таксама сведчыў, што А. Абуховіч «пісаў па-беларуску многа».

Пасля пераезду з Калацiч у Слуцак Альгерд Рышар-

давіч наймаў пакой у доме Хведаровічаў па вуліцы Іванаўскай (цяпер вуліца Розы Люксембург). Пасля смерці пісьменніка яго бібліятэка і рукапісы былі перанесены на гарышча дома. Яны захоўваліся ў плеценых з лазы карзінах, абшытых палатном, і ў скрутках. Пасля смерці Хведаровічыхі ў 1928 годзе дом купілі Барташэвічы. У пачатку 30-х гадоў нехта данёс, што ў Барташэвічаў ёсць золата. У іх доме зрабілі вобыск, знайшлі на гарышчы «кучу папераў, роўную з чалавекам» (выраз Барташэвічыхі), і арыштавалі гаспадара дома. Абуховіч-Бандынэлі, як сведчаць яго рукапісы, пісаў не кірыліцаю, а лацінкаю. Той, хто рабіў вобыск, відаць, палічыў рукапісы не беларускімі, а польскімі. Раніцою наступнага дня да дома Барташэвічаў падагналі балаголскую падводу, пагрузілі на яе карзіны з рукапісамі, скруткі папер і кніжкі, сярод якіх была энцыклапедыя ў сінім пераплёце, і вывезлі ўсё гэта ў невядомым напрамку. Пра ўсё гэта расказвалі мне старая Барташэвічыха (яна ўжо памерла), яе дачка і сын.

Улічваючы абставіны пачатку 30-х гадоў у Слуцку, можна сцвярджаць, што рукапісы Абуховіча-Бандынэлі або спалілі, або здалі ў макулатуру. Першае верагодней. У тыя дні, напрыклад, скасавалі Слуцкі трайчанскі манастыр і яго бібліятэку. Старажытныя кніжкі з манастырскай бібліятэкі пагрузілі ў некалькі дамавінаў, атэісты ўзнялі дамавіны на плечы, вынеслі іх на бераг Случы і там спалілі. Гэта «мерапрыемства» было названа пахаваннем рэлігіі... Падобны лёс мог тады напаткаць і рукапісную спадчыну Абуховіча-Бандынэлі.

Нейкімі нявысветленымі яшчэ шляхамі ў дарэвалюцыйны час некалькі рукапісных твораў пісьменніка трапіла ў Вільню, і там яны былі надрукаваны ў календары, у газеце «Гоман» і ў школьнай чытанцы. Рукапісы дзвюх баек Абуховіча-Бандынэлі за оўваюцца сёння ў Вільнюсе. Рукапісы дзвюх баек Крылова, перакладзеныя Абуховічам гр[афам] Бандынэлі на польскую мову, захоўваюцца ў Польшчы...

Максім Гарэцкі ў сваёй «Гісторыі беларускае літа-

ратуры», аналізуючы творы Абуховіча-Бандынэлі, адзначыў: «...на ўспамінах [...] адбіліся два галоўныя наслаенні веку: панскі рамантызм і хлопаманства». Не адмаўляючы правільнасць гэтай высновы Гарэцкага, нельга не адзначыць, што Альгерд Рышардавіч ад панскага рамантызму і хлопаманства ішоў і прыйшоў да крытычнага рэалізму і да сапраўднай любові да свайго народа. У пачатку 80-х гадоў XIX стагоддзя ў светапоглядзе пісьменніка адбыліся істотныя змены, якія былі звязаны з пераходам яго са становішча «пана-хлопамана» на становішча беларускага гарадскога інтэлігента, які ўласнаю працаю павінен быў зарабляць сабе сродкі на жыццё. Пры гэтым трэба ўлічыць, што праца беларускага пісьменніка тады ніякіх прыбыткаў не давала, а прыбыткі хатняга настаўніка (рэпетытара) былі выпадковымі. Як сведчыць у сваіх успамінах пра пісьменніка Язэп Дыла, былі дні, калі Альгерд Рышардавіч мог траціць на абед толькі 5 капеек.

Пры такіх абставінах не маглі не адбыцца змены ў светапоглядзе пісьменніка, бо адна справа глядзець збоку на жыццё сельскіх і гарадскіх нізоў, а іншая справа апынуцца ў іх становішчы.

Калі ў апошнія гады жыцця ў адным са сваіх вершаваных твораў Абуховіч-Бандынэлі, напрыклад, пісаў:

Хоць галодзен — я свабодзен...—

то тут ён гаварыў не толькі пра галодны люд свайго часу, але і пра сябе...

Публікацыі А. Абуховіча-Бандынэлі, зробленыя пры яго жыцці, пакуль што не выяўлены. Першая публікацыя твораў пісьменніка зроблена праз семнаццаць гадоў пасля яго смерці ў «Беларускім календары на 1915 год». Там былі апублікаваны байкі «Ваўкалак», «Старшына». У 1916 годзе ў газеце «Гоман» (№ 33—40 і 49) былі змешчаны фрагменты з мемуараў пісьменніка і яго верш «Дума а Каралю XII». Пазней у школьным падручніку з'явіліся яго байкі «Суд», «Воўк і лісіца».

Літаратурная творчасць і асветніцкая дзейнасць А. Абуховіча-Бандынэлі былі працягам той барацьбы за свабоду, за сацыяльную і нацыянальную справядлівасць, за «ўваскрашэнне Бацькаўшчыны» (як казаў пісьменнік), якую ён вёў у атрадзе паўстанцаў у 1863 годзе.

Аб трагічным лёсе рукапіснай спадчыны Альгерда Рышардавіча я ўжо гаварыў. Не менш трагічным з'яўляецца і лёс тых лічаных твораў пісьменніка, якія дайшлі да нас. Бадай усе яны былі надрукаваны яшчэ да рэвалюцыі, але некаторыя з іх нашай крытыкай свядома абходзяцца аж да нашых дзён. Напрыклад, яшчэ ў 1916 годзе ў газеце «Гоман» побач з «мемуарамі» быў надрукаваны верш Абуховіча-Бандынэлі «Дума а Каралю XII». У кнізе «Таямніцы старажытных сховішчаў» Адам Мальдзіс назваў гэты твор «цікавым і супярэчлівым вершам», які «чамусьці аказаўся па-за ўвагай нашага літаратуразнаўства».

Наўрад ці даследчыкі, якія бралі з «Гоману» для перадруку мемуары пісьменніка, не заўважылі там «Думу а Каралю XII». Не заўважыць яе яны не маглі, бо яна надрукавана разам з канцом мемуараў у № 49 «Гоману» ад 1 жніўня 1916 года. Даследчыкі свядома абышлі «Думу...» як твор складаны і супярэчлівы. Сам факт публікацыі ў «Гомане» мемуараў Альгерда Рышардавіча і «Дума а Каралю XII» яшчэ мала даследаваны. Звяртае на сябе ўвагу, што першая публікацыя фрагментаў з мемуараў пісьменніка зроблена ў «Гомане» ў той час, калі змяніўся рэдактар газеты. Нумар з публікацыяй першых фрагментаў з мемуараў падпісаў новы рэдактар «Гоману» нехта Салавей. Носьбіт гэтага прозвішча, відаць, быў родам з-пад Слуцка, бо і сёння пад Слуцкам у вёсках ёсць нямала людзей з такімі прозвішчамі. Мы не ведаем нічога пра рэдактара «Гоману» Салаўя, але нельга не сказаць яму слова падзякі за публікацыю твораў Абуховіча-Бандынэлі.

У. І. Ленін у свае «Філасофскія сшыткі» з кнігі Феербаха «Лекцыі аб сутнасці рэлігіі» выпісаў такую думку»: «Остроумная манера писать состоит, между

прочим, в том, что она предполагает ум, также и в читателе, что она высказывает не всё, что она предоставляет читателю самому себе сказать об отношениях, условиях и ограничениях, при которых высказанная фраза только и является действительной и может быть мыслимой». (Ленин В. И. Философские тетради. М., 1938. С. 73).

Такою дасціпнаю манераю пісьма шырока карыстаўся Абуховіч-Бандынэлі ў сваіх мемуарах і іншых творах. Магчыма, таму і абыходзілі іх даследчыкі нашай літаратуры, звяртаючы сваю ўвагу на больш простыя для аналізу творы.

У мемуарных запісках Альгерда Рышардавіча 12 раздзелаў, кожны з якіх своеасаблівы па жанру. Напрыклад, «Успаміны Кіева» — гэта ўспаміны дзяцінства, маляўнічае апісанне падарожжа на конях з-пад Глуска ў Кіеў. Раздзел «Мірaслаўскі» — высокамастацкі нарыс — партрэт палітычнага дзеяча XIX стагоддзя. Калі ж узяць раздзел «Літаратурнае апраўданне», то тут мы маем ледзь не першы навукова-крытычны артыкул, напісаны на роднай мове ў XIX стагоддзі...

Па багацці думак, вобразаў, маляўнічасці арыгінальнасці погляду на рэчаіснасць мемуары А. Абуховіча-Бандынэлі не маюць сабе падобных твораў у беларускай літаратуры XIX стагоддзя. З імі можна параўнаць хіба толькі такія творы, як «Тарас на Парнасе», «Пінскую шляхту» ды зборнікі вершаў Францішка Багушэвіча з іх прадмовамі...

У сваіх мемуарах А. Абуховіч-Бандынэлі завастрае ўвагу чытача на вядомых яму формах барацьбы і сацыяльнага пратэсту супраць прыгнятальнікаў. Але ўсё гэта ён робіць даволі тонка. Уважліва чытаючы ўспаміны пісьменніка, пераконваешся, што яго твор сацыяльны і што ён мае толькі аўтабіяграфічную афарбоўку. Напрыклад, пад бяскрыўднай назвай раздзела «Дзяды» крыецца багаты і сацыяльны і рэвалюцыйны змест. У мемуарах шмат што схавана ў падтэксце, шмат пра што сказана намёкамі, недагаворкамі. У «Истории белорусской дооктябрьской литературы» пра мемуары Альгерда Рышардавіча: гаворыцца «Строго до-

кументальные мемуары Обуховича явились новым жанром белорусской литературы. Они свидетельствуют о значительном интеллекте автора, о его глубоких связях с общеевропейской культурой. Это ценный исторический документ и одновременно художественное произведение, написанное ярким языком...» (История белорусской дооктябрьской литературы. Мн., 1977. С. 373).

А. Абуховіч-Бандынэлі, як і Ф. Багушэвіч, быў сынам свайго часу. Яго светапогляд сфармаваўся пад моцным уздзеяннем народніцкіх ідэй і рэвалюцыйна-дэмакратычных падзей 60-х гадоў XIX стагоддзя. Галоўным ворагам, які перашкаджаў «уваскрасіць Бацькаўшчыну», на думку Абуховіча-Бандынэлі, з'яўляўся не які-небудзь асобны палітычны дзеяч, а самаўладства, царызм наогул. Альгерд Рышардавіч як сапраўдны асветнік папярэджваў, што да барацьбы з царызмам трэба добра рыхтавацца і «не прыспешваць падзеі».

У сваіх мемуарах пісьменнік ускосна намаляваў ідэал палітычнага дзеяча, якому народ можа давяраць: гэта павінен быць не шарлатан, не акцёр, не камедыянт, не эклектык, а чалавек высокіх маральных якасцей, яснага розуму, які цесна звязаны з жыццём народа і добра ведае яго.

Як паказала будучыня, гэты ідэал здзейсніўся ў лепшых вучнях і паслядоўніках пісьменніка. Вялікая заслуга А. Абуховіча-Бандынэлі ў тым, што сярод бальшавікоў, якія заснавалі БССР, быў і яго вучань і паслядоўнік Язэп Лявонавіч Дыла — нарком працы ў першым беларускім савецкім урадзе, паэт, празаік, драматург, перакладчык і публіцыст, чалавек нязломнага духу... У пачатку 30-х гадоў Язэпа Лявонавіча беспадстаўна абвінавацілі і выслалі на Урал, а потым у Саратаў. Здавалася б, усё. Ніякіх надзей на працяг літаратурнай дзейнасці няма. Але Дыла знайшоў выйсце: пад жаночым псеўданімам ён пісаў «дзіцячыя» апавяданні, дасылаў іх у Мінск, друкаваў у дзіцячых часопісах і выдаваў іх асобнымі кніжкамі. Слова дзіцячыя я ўзяў у двукоссе, бо ў гэтых на першы погляд

бяскрыўдных апавяданнях Язэп Дыла называў сваіх палітычных і літаратурных праціўнікаў безгаловымі манекенамі...

У сваёй кнізе «Альгерд Абуховіч-Бандынэлі» я больш-менш падрабязна расказваў пра іншых вучняў Альгерда Рышардавіча: пра Пятра Карповіча, рэвалюцыянера, які ў 1901 годзе смяртэльна параніў рэакцыянера міністра асветы Расіі Багалепава за тое, што ён здаў у салдаты каля двухсот студэнтаў, пра Івана Чудоўскага, які загінуў у гады рэвалюцыі, і пра Аляксандра Ярэміча, які грашовымі сродкамі падтрымаў выданне зборніка вершаў Янкі Купалы «Шляхам жыцця»...

У раздзеле сваіх мемуараў «Літаратурнае апраўданне», расказваючы аб сваёй сустрэчы і спрэчцы з Ф. Багушэвічам, Альгерд Абуховіч-Бандынэлі папярэджваў беларускую інтэлігенцыю, каб яна, не забаўляючыся пурытанізмам, дбала пра ўсебаковае развіццё нашай літаратурнай мовы. Гэты запавет пісьменніка не страціў свайго значэння і ў нашыя дні.

У кожнай нацыянальнай літаратуры ёсць імёны славутых байкапісцаў, якія выступалі носьбітамі поглядаў і звычаяў свайго народа, яго мудрасці і расказвалі ў алегарычнай форме пра надзённыя з'явы жыцця. У старажытнай Грэцыі гэта Эзоп. У Францыі — Лафантэн, у Расіі — І. Крылоў, на Украіне — Л. Глебаў. Байкі А. Абуховіча-Бандынэлі сведчаць, што гэта быў выдатны байкапісец XIX стагоддзя.

У байцы «Ваўкалак» Альгерд Рышардавіч паэтызаваў і ўслаўляў свабоду напярэдадні буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі.

Хоць галодзен — я свабодзен,
Гдзе мне цягне — там бягу.
На свабодзе прападу,
А ў няволю — не пайду!

У байцы «Старшына» пісьменнік з'едліва высмейваў рэформу (свабоду) 1861 года. «Авечкам» далі волю толькі на паперы:

Іх на сход зусім не звалі,
А ўпісана ў пратаколе,
Што авечкам дана воля.

Круцельства ў розных яго праявах Альгерд Абуховіч-Бандынэлі трапна выкрывае ў байках «Воўк і ліс́іца», «Суд».

У байцы «Суд» выкрываецца круцельства і беспрынцыповасць адвакатаў самаўладства. Мараль тут, як звычайна, вынікае з усёй вобразнай сістэмы твора: «Круцялёў чым разбіраць, лепш абодвух пакараць».

Характэрна, што Воўк у байках Абуховіча-Бандынэлі часта выступае як носьбіт вальнадумства, як носьбіт пратэсту супраць прыгнятальнікаў і крыўдзіцеляў, як носьбіт ідэі свабоды і незалежнасці.

Гэтая кніга — першае асобнае выданне твораў Альгерда Абуховіча-Бандынэлі. Яна выходзіць у свет праз 92 гады пасля смерці пісьменніка, да 150-годдзя з дня яго нараджэння. Цяжкі быў яго творчы шлях. Ідучы цалíком, ён нёс у сабе, кажучы словамі У. Жылкі, «дух асілка». Яго творчасць — заканамернае звяно ў развіцці беларускай літаратуры XIX стагоддзя.

*Рыгор Родчанка*

# ВАЎКАЛАК

Чараўніца уракла —
Быў я калісь ваўкалакам,
Бегаў чортам ўздоўж сяла,
І к гавядам поўзаў ракам,
І людскую знаў гаворку,
І з сабакамі з надворку
Гаварыць я спосаб меў.
За гумном раз ціха сеў,
Ажно Лыска прыляцеў,—
Як на панскай службе стаў,
Па прыязні ён мне кажа:
— Кінь ты, куме, жытло ўража:
Цяпер марна прападаеш.
А ты ж гэткі спосаб знаеш:
Майму пану стань служыць,
Табе добра будзе жыць.
— Ах ты, дурню,— думаў я.—
Мне вярнуцца да сяла?
З сваім панам і сялом
Задушыся ты калом!
Хоць галодзен — я свабодзен,
Гдзе мне цягне — там бягу.
На свабодзе прападу,
А ў няволю — не пайду!
Буду вольным ваўкалакам,
Ты ж — на прывязі сабакам!

# СТАРШЫНА

Хоць які парадак дай,
Адно тое, братка, знай,
Што крутнёю ўсей пакруціш
І найлепшэ збаламуціш.

---

Льва-манарха воўк прасіў,
Каб вайтом яго зрабіў.
Бо авечкі скрозь ў бязладдзі,
Шкодзяць вельмі ў панскім садзе.
Ды і самі прападаюць,
Бо, як жыць, яны не знаюць.
І ліса за ім прасіла
(Яе жонка льва любіла).
Воўк з лісіцаю звязаўся
І, як можна, так стараўся:
Дзе прасілі, дзе ўздыхнулі,
Дзе гасцінца падаткнулі,
Каб дабіцца да медалі,
І плацілі, і прасілі, і стагналі...
Леў гаворыць: — Ходзяць толкі,
Што авец з'ядаюць воўкі.
І сазваць сказаў народ
На звярыны вольны сход,
Паспытаць усіх звярат:
— Воўк ці добры, ці ён гад?
Чыны важны ўсе прыйшлі,
Ўсё начальства тут было.
Ды прычыны не знайшлі,
Зла аб воўку не чутно:

Пад судом ён, бач, не быў
І з начальствам добра жыў,
Дык медаль пан войт надзеў
На авечы цэлы хлеў.
А авечкі што сказалі? —
Іх на сход зусім не звалі,
А ўпісана ў пратаколе,
Што «авечкам дана воля».

## СУД

Там, дзе пушча, за прасёлкам,
Калісь ліс жыў з шэрым воўкам
І, як весць людская кажа,
Жыло згодна племя ўража;
Ды да часу.
Хутка сварка там пайшла:
Ўкрыўдзіў нечым ліс ваўка.
Дайшло дзела да суда.
Можа, праўда, можа, не,—
Адвакаты — два сабакі на судзе.
Кожны брэша, на праціўніка вядзе.
А суддзёю быў глушэц,
Ён разумны ці глупец,
Тое трудна разгадаць,
Адно толькі, як чуваць,
Што рашыў ён дзела так:
Выгнаць з суду ўсіх сабак,
А воўк з лісам плоцяць штраф.
Воўк — бо хлусіць ён напрасна,
Ліс — бо злодзей.
Гэта ясна:
Круцялёў чым разбіраць,
Лепш абодвух пакараць.

# ВОЎК І ЛІСІЦА

«На табе, нябожа,
Што мне нязгожа».
Раз папалася лісіцы
Ажно тры злавіць курыцы.
Падушыла; дзве з іх з'ела,
Трэццю скрыла. Сама села —
Як па працы — пад стажком
Воўк галодны йшоў нішком [1].
А што з кумою быў знаём,
То такую рэч павёў:
— Ах, сястрыца,— кажа кум,—
Я ад рання браў на вум,
Каб што-кольвек мне пад'есці,
А тут на злосць негдзе ўлезці.
Падхапіў бы я хоць птушку...
Да авец падходзіў збочку,
Ды пастух чупрыну чэша,
І сабака прытым брэша,—
Падступіцца няма складу!..
Дай ты, кумка, яку раду?!
— Ох, мой куме даражэнькі!
То ж стог сена цалюсенькі.
Еж, як хочаш,— не шкадую,
Хоць апошнім, ды частую!
— Дзякуй, дзякуй! — сказаў шэры
І пацягся без вячэры.

# ДУМА А КАРАЛЮ XII

Зоры паўночы кроўю пылаюць,
Снежны чырвонюць прасторы;
Людзям варожбы ліхі звяшчаюць
Зораў паўночных разоры.

Ось тры малойцы,— з асобна кожны,—
Буйныя думы гналі з укрыцця;
На поўнач кідалі ўзгляды трывожны
З мыслю, што стрэнуць у жыцці.

Той каралеўскай жадаў кароны,—
Не дбаў аб чэсць у патомных,
Каб толькі д'ядэм мецці злачоны
На скронях сваіх нікчомных.

Гэты, дзе поўнач, зроджэн на цара,
Імператорам меў стацца,
Хоць баранілі народ і вера
Айчызне з грунту зменяцца.

Дала абодвым злая фартуна
Сваіх дасцігцці намераў:
Першы на Польшчу кінуў цалуны,
А той расшырыў моц цараў.

Трэці, на стромкай апёршысь скалі,
Дзе вілі гнёзды саколы,
Думаў прайначыць злой долі шалі,
Не дбаў аб цяжкі мазолі.

Зоры шырока неба крывавюць,
Крывавюць землі і воды,—
Гэтак шырока твае расславяць,
Манаршэ, імя народы.

К шчасцю народаў, дзля іхнай славы
Агністо біло ў ім сэрцэ...
Будзьце ж праклятыя, палі Палтавы,
І ты, народаў мардэрца!

Памерклі зоры, памеркла слава,
Русь у няволі марнее;
З гробу Кароля, з поля Палтавы
Устаньце, народаў надзеі!

# З ПАПЕРАЎ АЛЬГЕРДА АБУХОВІЧА

## I. *Успаміны Кіева*

Радзіўся я 25 ліпеня (дзень св. Якуба) 1840 года. Прынялі мяне з жалем і абразай: быў я калекі. Думалі, што або зара памру, як брат майго бацькі, каторы меў гэтае самае калецтва, або буду ідыётам, як Генрык Быкоўскі з Русаковіч, таксама трывусны. Тым часам я гадаваўся, і пастанавілі аддаць мяне ў гімназію ў Слуцак. Але і мне самому не хацелася і бацькам маім таксама не хацелася аддаваць калекага хлопца на кпінкі і здзекі равеснікаў; трэба было зрабіць спярша аперацыю, каторай тагачасныя дактары на Беларусі неяк баяліся. Слылі тады як аператары: Пірагоў, Кажанеўскі і Караваеў. Гэты апошні быў прафесарам Кіеўскага універсітэта, а да Кіева было і найбліжэй і найлягчэй дабрацца. Пачалі выбірацца ў Кіеў да Караваева, а ў гэтым часе разышлася чутка, што царыца, жонка Мікалая I, занядужыла на вочы, што маюць рабіць ёй аперацыю і што Караваева на вясну паклікалі ў Пецярбург. Дык едзем перад вясною, але ўжо коламі, па чарнігаўскіх растопах. Дарога ішла на Лоеў і Чарнігаў. Запрагалі ў адну карэту шэсцера каней, а пад фарысія [1] — трое або чацвера, у каламажку, што ішла ззаду з нашай службай, запрэжана было пяцёра каней. Мы нідзе не загразлі, але бачылі карэты, цягнутыя некалькімі парамі валоў, і то на паштовым тракце (шосы яшчэ не было). На Дзесні,

пад Чарнігавам разлітай на 10 вёрст, сарвалася бура, і паром наш занесла на нейкі бязлюдны груд [2], дзе і прыйшлося нам начаваць. У Броварох уз'ехалі мы на шосу і пасля станулі над разлітым Дняпром. Мост тады яшчэ будаваўся: перабіраліся паромам.

Нестае ў мяне агня, каб апісаць мае тагочасныя дзіцячыя ўражанні, калі я ўбачыў Кіеў, а памятаю ўсё: і нейкага ваеннага старца, які раіў матцы маей,— думаючы, што яна сама едзе лячыцца,— не звяртацца да дактароў, але піць ваду з Днепра, бо святая; і аднаго з нашых фурманоў, вельмі харошага маладога русавалосага хлопца, каторы выказываў мне спачуццё, што мяне будуць «рэзаць»,— сягоння бы паказаў яго, каб ён быў гэткі малады і гожы, як перад 40 з гарой гадамі (было гэта ў 1852 г.). У канцы канцоў прыехалі на Ліпкі, там, дзе сягоння палац, а тады былі нейкія быццам «мінеральныя воды» і гасцініца. Доўга праглядалі нашы пашпарты, перш чым упусцілі нас у некалькі саўсім не элеганцкіх святлічак.

Назаўтра паехаў я з маім вучыцелем, п. Прыборам, да Караваева, каторы прыняў нас у універсітэце (затым прызнаеце мне, што я быў у Кіеўскім універсітэце!). Караваеў агледзіў мяне і аперацыю назначыў на другі дзень, у панядзелак. А панядзелак гэты прыпадаў у вялікім тыдні, 13 красавіка. Панядзелак і трынаццатае! Караваеў сказаў матцы, што хларафармаваць не будзе, «а хлопчык будзе крычаць». Я сказаў, што крычаць не буду. Здаецца, што Караваеў узяў за аперацыю 150 руб., Цэцурын — 50, а Кучэўскі — 25,— здаецца, што не болей. Надышоў панядзелак. А 10 гадзіне раніцай прыехаў Караваеў з Цэцурыным і студэн-

там-медыкам п. Кучэўскім. Вынялі інструменты і зажадалі лаёвай свечкі, каб пацягнуць аб яе нажы. Я пачуў такое дакучлівае дрыжанне на ўсім целе, што выбег адліць ваду. Гэтага адразу ніхто не ўгледзіў, але скора агледзеліся, што мяне няма, і думалі, што я ўцёк, так што я, вяртаючыся, сустрэціў усіх аператараў, каторыя хацелі выходзіць. Вярнуў іх, сеў у крэсле з поручамі; мяне абвязалі сурвэткай, як да снедання. Аперацыя цягнулася 8 мінут. Ніхто мяне не трымаў, я сам рукі прыцiскаў да поручаў крэсла. Мая матка сядзела ў суседнім пакоі і казала, што чула незвычайны шум у вушах і толькі пад канец пачула, як некалькі разоў нешта прыкра скрыгнула: мабыць, было гэта абрэзанне шпілек, удзетых у вусны. Як скончылася аперацыя, пачалі мяне хваліць за маю цярплівасць. Караваеў расказваў аб гэтым у клініцы. Прайшло пара дзён, і раптам уначы палілася з артэрыі кроў, падняўся перапалох. Мой вучыцель, п. Прыбора, павінен быў ісці да доктара, але гэта даслоўна ісці, бо калі не памыляюся, то ў Кіеве было тады ўсяго панства — тры рамізу, а ў тых, што хадзілі ноччу, пыталіся пашпартоў, і хто не меў прыпадкам пры сабе пашпарту, садзілі ў халодную. Аб ліхтарнях на вуліцах яшчэ там ніхто не чуваў. Кроў лілася, а Прыбору не пускалі да Караваева, каторы жыў блізка каля універсітэту, здаецца, у старане батанічнага саду. Па чатырох гадзінах кроў заматавалі. У два дні пазней, дужа рана, ізноў бухнула кроў; гэтым разам п. Прыбора знайшоў рэмізу, але Караваеў «уехал говеть». У каторую цэркву? — «Не могу знать». Аднак жа хутчэй, чым першы раз, прыбыла помач.

У Кіеве пазнаў я сваіх стрыечных дзвёх сяс-

цёр, незвычайна гожых, падрастаючых ужо дзяўчынак, ды брата Яраслава, крыху старшага за мяне, і маленькага Багдана. Дзядзькі мае жылі ў Кіеве дзеля выхавання дзяцей; ім зайздросцілі, што маюць лёгкую дарогу ў Кіеў: калі перавазіліся туды, то дзядзька мой загадаў пабудаваць байдак[3], на каторы паставілі 4 коней, гэтулькі сама кароў і ў прапорцыі рознай іншай гаспадаркі, з патрэбнай мерай корму, а ў каюты памясцілі паноў і слуг, ну і паплылі, як у каўчэзе Ноя (гэта тады называлася, што падарожжа нічога не каштуе!). Дом у Кіеве яны мелі свой, дужа блізка ад універсітэту, здаецца, што на Володзімерскай вуліцы. Праходзіць трэба было міма самаго універсітэту і ісці далей; было пара дамоў мураваных, пасля вялікі драўляны дом Оскеркаў, а побач гэткі ж, толькі крыху менш, дом майго дзядзькі з вялікім пустым пляцам, каторы злучаўся ужо з полем. Поле не было засеяна і выглядала, як нейкі гарадскі выган. Цешыліся, што жывуць быццам у вёсцы, а было гэта ад універсітэту, як ад камітэту да Бернадынскага касцёлу ў нашым Слуцку, не далей. У гасцініцы «Мінеральных вод» менш было шыку, чым цяпер у Лейбіхі ў Слуцку, толькі гасцініца прытыкала да царскага саду, у каторым дзіўныя алеі вялі на бераг Днепра. Відокі там так дзіўныя, што хоць пасля я бачыў свету, адначэ відокі Кіева і яго хараство назаўсёды асталіся ў мяне ў памяці. Першы раз бачыў я там тэатр. Быў ён на Падолі мураваны, брудны, цесны і цёмны. Гралі дзве нейкія штукі: польскую і расійскую, здаецца, што ў абодвых было мардабойства, і памятаю, што ў расійскай былі нейкія брыдкія словы. Рух на Крашчаціку, сколькі памятаю, не быў большы, як у Слуцку на Ма-

стовай[4] вуліцы ў targовы дзень. У царскім садзе публікі збіралася многа, пагода служыла, ды і вясна там пачынаецца раней, як у нас. Усе ведалі аба мне і звярталі ўвагу. Я быў героем дня, што дужа патурала маёй амбіцыі. Хоць у тэатры ігралі штукі па-польску, але на вуліцах мовы польскай, даслоўна, не чуў, і ў гэтым, як і ў многа чым іншым, знайшоў я вялікую перамену, будучы ў Кіеве ў 1878 годзе.

Міла было б спамінаць тыя патрыярхальныя часы праўдзівага дастатку і на свой спосаб выгоды, каб не дзве асобнасці тых часоў: прагавітая, падозрывая ўласць (паліцыя, жандармерыя) і пастаянны на ўсе бакі свіст розаг. Нават з успамінамі гэтай падарожжы лучацца розгі: на тры дні перад выездам зрабіўся ў нас «судны дзень», выйшлі на яў нейкія плёткі. Некалькі асоб высеклі, між іншым таварыша падарожжы, маладога лёкая Яся. Дастаў ён каля 30 розаг, хоць я дужа яго жалеў, але не важыўся дапытвацца, за што, бо і сам у страшнай гразе быў трыманы. Людзі, аднак жа, з гэтым асвоіліся так, што гэта было тэмай кпінак і прыпінак. Ясь, напрыклад, казаў, што яму «мух ганялі», а сляды таго «ганяння мух» прывёз нават дамоў з Кіева, і кіеўскі «незабуд» трываў цэлы месяц. Расказваў ён, што зараз па экзекуцыі загадалі яму трымаць за ногі Магдалену, каторая ўвесь час, як яе білі, плакала, паказываючы яму ўсе свае «сакрэты». Што да Магдалены гэтай, то я пэвен, што там яе віны ніякай не было, але была гэткая прычына: жыў у нашым баку п. Пушчык, абывацель, расіец, эксдзекабрыст, скінуты з палкоўніка гвардыі ў салдаты (знача мучанік ідэі, сын свабоды). Гэты Пушчык[5] расказваў апасля ў салоне вось як аб гэтай экзекуцыі: «Дагледзіў

я, што з нейкага часу да кавы даюць мне заместа смятанкі — малако, і то штораз радзейшае. Доўгі час не прыбраўся я сказаць аб гэтым, але раз уначы не мог я спаць: боль раны (з тых часоў, як быў салдатам) страшэнна мне дакучала, а раніцай заместа смятанкі дастаю сівое малачко. Гэта мяне зазлавала. Дык, нічога не кажучы, кажу лёкаём (нават і імёны памятаю: Александру і Антону) склікаць усю бабскую службу ў кантору — кантора побач стайні, дзяўчаты на зазыў хлапцоў вясёла папрыбягалі, і тут пачалася расправа. Фурманы Сцёпка і Тодар як адлічылі кожнай па 50, то ўсё наладзілася, хоць, можа, азадкі схудлі, але малако патлусцела». Пан Пушчык расказаў з гумарам, і гэта ў той час трапляла ўсім да пераконання. Гэткія парадкі трывалі ў нас яшчэ цэлы год пасля нашай падарожжы ў Кіеў, а перамена на лепшае, якая пасля сталася, варта таго, каб яе апісаць у асобным раздзеле.

## *II. Палажэнне сялян*

Святой сваёй павіннасцю лічу апісаць палажэнне сялян, каторае ў першым раздзеле зачапіў нават неспадзявана для сябе.

Пасля таго як мы вярнуліся з Кіева, да канца лета былі мы яшчэ дома, гэта значыць у Калатычах. Перад пачаткам школьнага году пераехала мая матка разам са мной у Слуцак на пастаяннае жыццё, а бацька паехаў у ўлюблёнае сваё Грабова * ў Мозырскі павет. Стасункі з во-

* Грабовы ёсць два ў Мозырскім павеце: «Вялікае» — калісь Абуховічаў і «Малое» — калісь Радзівілаў. Водка — старка, каторую прадаюць Карказовічы, паходзіць з Радзівілаўскага Грабова. *(Прыпіс аўтара.)*

ласцю былі ўжо напярэдадні волі лепшыя; лагоднымі іх назваць няможна (за цара Мікалая лагоднасці не было), а толькі былі быццам патрыярхальныя. У Грабове было некалькі сялянгаспадароў, людзей шанаваных і справядлівых, каторыя былі ў зажыласці з самім панам [6],— то гэтым стрымлівалася крыху страшэнная самаволя намеснікаў. У Калатычах жа астаўся неабмежаваным уладаром Кароль Булгак, казалі, банкарт [7] «слаўнага» (?) Булгарына, з мясцовых сялян, чалавек малады, але злога характару,— і бяздольнікі завылі.

Пад канец зімы з'яўляюцца пасланцы ад калатыцкіх сялян, молючы ў маткі маей ратунку. Першай прыбыла маладая, гожая дзяўчына, Куліна, каторую розгамі прымушалі да любові; ёй пазволілі астацца ў Слуцку і зара найшлі службу, а другія дасталі на рукі нешта кшталтам «жалезных лістоў», каб ніхто не смеў і пальцам крануць аж да прыезду пані. Апрача гэтага, нарочны пасланец завёз ліст да майго бацькі, у каторым паведамлялася, што на Вялікдзень прыедзем у Калатычы.

Тут скажу, што я першы раз бачыў уплыў духу надыходзячай волі: заместа адпору са стараны бацькі наступіла яго поўная згода парабіць уступкі сялянам. Запрасілі на нараду мясцовага пароха [8], уніяцкага ксяндза Андрэеўскага, улажылі нешта кшталтам канстытуцыі, і з гэтага часу быт нашых падданых на вачах пачаў папраўляцца. Бог даў падрад некалькі ўраджайных гадоў, так што даходы ўтрое павялічыліся, новую прыкупілі вёску (Заполле), і тысяча «душ» людзей мелі працаваць на хлеб для маладога Ольдзі, каторы сягоння, пішучы гэтыя ўспаміны, павінен прызнацца, што не мае

ані «буднага хлеба», ані страхі над галавой, ані нічога, апрача колькіх сваіх прыяцелёў: tális est mutatio rerum [9]!

Услед пасля гэтага бацька мой пробаваў ачыншаваць [10] сваю вёску Бубноўку (сягоння ўласнасць Фелькі Чарноцкага); хаця гэта спяршa не аказалася практычным, бо было перадчасным, але сягоняшнія ўспаміны Бубноўскай чыняць славу памяці даўнейшага іхнага пана.

Растучы, я развіваўся, а перада мною штораз харашэй рассцілаўся свет: на царскім троне сеў, слаўнай памяці, Аляксандр II, насталі часы, аб каторых можна сказаць, што людзей нікчэмных яны не бачылі. Не стала бы паветра для подлых інстынктаў. Няхай цяперашняе пакаленне зайздросціць, што я на гэта глядзеў сваімі вачамі. Чэсць тагачаснай кіеўскай маладзёжы, каторая была дэмакратычнай і «хлопаманскай».

## *III. Мая кніжка*

За найлепшых, якія памятаю, часоў жыў я ў Жэневе. Як вядома, гэта цэнтр пратэстантызму (Жэневу называюць кальвінскім Рымам, народ скрозь там кальвінскі [11]). Акружоны я быў вернымі самых разнародных сект, а калегі мае і прыяцелі былі найбольш масоны [12]. З каталікоў знаў толькі тамачнаго пароха кс. Mermilad, пазнейшага кардынала, Антоняга Патка (паляк-эмігрант, слаўны зегармайстар, чалавек светлы, але пільнуючы перш за ўсё свайго рэмясла) і дзвёх старых паненак de Sillonge, зродныя сёстры графа Кавура [13], п'емонцкага міністра і пазнейшага тварца Італьянскай еднасці. Патэк быў у старане пры рэлігійных спорах, хоць на-

ват ад папежа Піўса IX дастаў тытул графа; кс. Mermilad і сёстры de Sillonge былі з сабой здалёку, бо тады справа свецкай улады была sur le tapis [14] і ксяндзу не ў спадобу былі зносіны яго парахвіянак з верхаводам італьянскай свабоды. Кавур бываў гэтаксама ў Жэневе, але інкогніта, як і ўсе, што там засталіся. Быў нават і [звер] Бобікаў, б. начальнік Кіеўскага округу, і, як звычайны старэнькі чалавечык, аціраўся аб іншых смяротнікаў. Візіты Кавура тлумачылі сабе масонскімі цэлямі, а мне здавалася, што там былі фінансавыя прычыны, зрэшты, я быў тады яшчэ мала што не рабёнкам. Кавур быў заўсёды вельмі заняты і акружэны людзьмі паважнымі, і раз толькі звярнуў на мяне ўвагу. Кс. Mermilad слушна ці не слушна ў візітах Кавура бачыў нейкую проціпапежскую інтрыгу.

Я жыў у старой кальвінкі пані Fomio de Koligny, дзе таксама наймала кватэру і англічанка метадыстка n. Roberts; яна-то і падарыла мне кніжку, каторая 40 блізка гадоў заўсёды знаходзіцца пры мне. Кніжка гэта — «Аб наследаванні Хрыста». Дзівіць мяне крыху, чаму гарачая апосталка метадыстаў, якой была mis Roberts, выбрала для мяне якраз гэтае выданне «Наследавання», дзе на канцы памешчана каталіцкае набажэнства; ці яна хацела гэтым выказаць перад каталікамі сваю бесстароннасць, ці, можа, сваю пашану для перакладача кс. Lammenjer, каторы разам з de Montalenbertam, нашым шырока вядомым прыяцелем, былі ў сварцы з Апостальскай Сталіцай, як лішне вольнадумныя людзі. Канец канцом удзячан я вельмі mis Roberts за тое, што яна мне дала гэту кніжачку. Агульна прызнаю яе архітворам мыслі і літаратуры: я ў ёй знайшоў многа думак, ка-

торыя ўмацовывалі мяне ў цяжкіх момантах майго жыцця, якіх было шмат на маей жыццёвай дарозе. Аўтар яе, напэўна, невядомы: адны думаюць, што св. Tamaš a Kempis, а навейшая навука даводзіць, што напісаў яе нейкі ісландскі мніх невядомага імені.

Сколькі ж гэта архітвораў не можа назваць сваіх тварцоў?!

## *IV. Мой дзед*

Дзед мой бачыў Робесп'ера [15]
Адвакатам і акторам,
Ды не думаў, што кар'ера
Яго зробіць дыктаторам.

Дзед мой Юзеф Абуховіч граф Бандзінелі, мабыць, ніколі не бачыў Рабесп'ера; калі быў у Парыжы і Версалі як шамбеляна [16] польскага двара, то гэта будучая знамянітасць сядзела недзе яшчэ ў Аррас. Калі ж закіпела рэвалюцыя і Робесп'ер выплыў наверх, то дзед мой быў на іншым становішчы: спярша быў жаўнерам пад Касцюшкам [17], а пасля, як баніта [18], выняты з-пад права, пад прыдуманым прозвішчам тры гады быў фурманам у ваяводзіхі Хадкевічыхі на Падолі: «tális est mutatiorerum». Мабыць, з тых часоў ці, можа, і раней завязаліся нейкія асаблівыя стасункі з Пулавамі і сям'ёй князёў Чартарыйскіх. Дзед-нябожчык аб сваёй мінуўшчыне ніколі нам не расказваў — тое, што мы ведалі аб ім, то толькі недзе са стараны,— але ведаю, што ён старасвецкія сямейныя памятнікі адаслаў у Пулавы, з Пулаў атрымліваў і розныя весткі. Калі я ў 1860 гаду быў прадстаўлены кн. Адаму Чартарыйскаму, то ён, 90-летні

старац, пачуўшы маю фамілію, быццам ажывіўся і спытаў: «Сын шамбеляна?» — «Унук, міласцівы князю».— «Так, Юзеф Абуховіч, мусі, даўно ўжо не жыве, ён старэйшы быў за мяне»,— і з гэтымі словамі быццам ізноў асунуўся. Каб гэта і не быў князь Адам, то ўсё ж такі з такім паважным старым чалавекам нельга было адважыцца нахрапам распытывацца аб падробніцах з мінуўшага; дык захаваў я сваю цікавасць да якой-колечы шчаслівейшай зручнасці, каторая ўжо не надарылася, хаця пасля не раз, нават часта, бачыў я старога князя. Калінка мне казаў, што, яшчэ мяне не знаючы, чуў разгаварываючага князя Адама з сваёй сястрой княгіняй Віртэмберскай (аўтаркай «Pielgrzymek z Dobromilá»[19], як маю фамілію яны ўспаміналі ў нейкай вясёлай гутарцы, але аб што ішло — не памятаў, а калі я быў у Парыжы — княгіня ўжо не жыла. Можа, нейкія дагэтуль нязнаныя памятнікі кінуць святло з таго кавалка жыцця і паступкаў майго дзеда.

## *V. Мая жонка*

4/IV 1904[20]. Сягоння раніцай скончыўся 21 год ад смерці маей жонкі. Сем не споўна гадоў трывала гэтае нешчаслівае пажыццё. Палажэнне было цяжкое, а дамовы спакой руйнавала інтрыганка, вельмі падобная да старой паненкі Вікторыі. Нябожчыца жонка мая была асоба добрая, гожая, вельмі мілая і ветлая ў стасунках з людзьмі. Спевам сваім кожнага магла абвbabражыць. Вартая была лепшай долі, чымсьці тая, якую яна мела: я яе ніколі не любіў і шмат чаго выкідаю сабе...



Альгерд Абуховіч.
*Мастак М. Вецік*



Слуцкая кальвінская гімназія.
Тут у 1852—1854 гадах вучыўся пісьменнік.



Слуцкі сабор. 1914 г.




Помнік на магіле пісьменніка.

Мне перш за ўсё трэба было спазнаць сябе і ніколі не жаніцца або пайсці на грашовы інтарэс і забяспечыць сабе і бацькам быт, да каторага само сабой былі мы ўсе прывыкшы.

У дамовым пажыцці я быў жорсткі і карысны. Матэрыяльныя няўдачы з аднэй, а інтрыгі з другой стараны атруцілі нам жыццё...

У тваіх руках, божа, суд справядлівы...

## *VI. «Граф Бандзінелі»*

Я падпісваюся на маіх беларускіх творах «Граф Бандзінелі»: гэта прозвішча маей бабкі, апошняй з гэтага роду, каторы выдаў такую знамянітасць, як папеж Аляксандр III. Бачыў я на plet fond [21] у залі «Трохсот» у палацы дожаў [22] сцэну: цэсар прымушан пасці ў ногі папежу. Папеж стаўляе адну нагу на сагнутым карку цэсара і кажа: «Super aspidem et basiliscum ambulabo et conculcabo draconem et bovem» [23]. Расшалелы ў сваім паніжэнні дэспат кажа: «Пакараюся Пятру, а не табе». А тады Аляксандр III граф Бандзінелі, становіцца абодвымі нагамі на яго імператарскай спіне і зычным кажа голасам: «Et Petri et mihi» [24]. З роду Бандзінеліх быў слаўны тварэц «Laokoona». У італьянскай бацькаўшчыне слыў гэты магнацкі род і прыбыў у Польшчу як амбасадар [25] Неапалітанскі, за Яна III [26]. Гэты амбасадар неапалітанскі, уміраючы ў Варшаве, пакінуў сына, майго прашчура. Аляксандр граф Бандзінелі, падкаморы Дэрптскі, дзядзька маей бабкі, бачучы род свой угасаючым, усынавіў род Абуховічаў.

Пазываючыся ў подпісы на дзядоў сваіх, грудзі мае парушае пачуццё нечага вялікага, сіль-

нага... Чытаючы ж Пушкіна, мяне дзівіць пазыванне на яго афрыканскае паходжанне. Куплены за бутэльку рому «Арап Пятра Вялікага» — гэта пратопляста Пушкіна. «Нечага хваліцца» — скажа кожны. Але іначай разумее гэта псіхалогія маскоўская: «Памілуйце, Царскі Дзяншчык!..» Гэта быццам нешта сярэдняе між чалавекам і анёлам святым!

Не Сібір, астрог, не кнут —
І не цела цяжкі мукі,
Але дух народу струт...

## *VII. Міраслаўскі*

Пазнаў я яго каля 1860 года ў Парыжы. На Pasroqo di Commero была чытальня з польскай сталовай Жукоўскага (здаецца, Янкі). Брыдкая дзіра, брудная. Там за маіх часоў сходзілася кампанія польскай дэмакратыі. Скандалаў там, аднак, не было, як некалі на rue Taranne. Сходкі былі саўсім прыятныя, а генерал Міраслаўскі забаўляў кампанію сваей зручнай і дасціпнай размовай. Быў гэта, само сабой, шарлатан, але вельмі сімпатычны. Асыпаў нас патрыятычнымі фразамі і страляў вострым гумарам у сваіх палітычных праціўнікаў. З выгляду быў незвычайна гожы, душаўкладны, так што на дэмакрата саўсім не выглядаў, хутчэй на актора, бо і быў-такі камедыянтам. Ён ўзяў многае на сваё сумленне, прыспяшаючы здарэнні 63 году [27]. Часцю апраўдвае яго тое, што край знаў ён толькі з расказаў нейкіх паноў сваякоў ды мяшчан варшаўскіх, каторыя самі ведалі мала аб краю

ды баялі, як аб жалезным воўку, а толькі патураючы шляхце, слалі сабе сцежкі да кар'еры.

Людвік Міраслаўскі хоць тры разы быў дыктатарам: у Бадэні, у Неапалі і ў Пазнаншчыне, але грошы не збіраў. Жыў заўсёды скромна, зарабляючы лекцыямі, а па смерці пакінуў усяго 1700 франкаў; які-колечы пазнаншчык гэтулькі міліёнаў пэўне б, на яго месцы будучы, сабраў бы.

Міраслаўскі быў — гэта знача выказваў сябе — атэістам, але ў яго пакойчыку вісеў на сцяне абраз Маці Божай Чэнстахоўскай. Раз Фелікс Вратноўскі адведаў яго ў хваробе; прыціснуты болямі, пан Людвік голасна ўзываў ласкі Маці Божай. Калі мінуў прыступ боляў, Вратноўскі спытаў Міраслаўскага, што гэта мае значыць? Той выкруціўся жартамі, што ён заўсёды гатоў шукаць ласкі ў кожнай паненкі.

Міраслаўскі ў мутнай вадзе рыбы не лавіў, але затое заўсёды гатоў быў у муці сабраць жменьку гразі, каб кінуць у вочы сваім палітычным праціўнікам. Не гэткага крою павінны быць стаўпы народаў, уваскрасіцелі Бацькаўшчыны!

## *VIII. Дзве смерці (3 мая 1894 г.)*

Зваліліся дзве навіны, як гром з яснага неба, аб дзвёх смерцях: п. п. Адам Перасвет Солтан і Марка Узлоўскі ўчора развіталіся са светам. Абодвы ў ваколіцах Слуцка пражылі свой век. Варта аб іх пагаварыць. Пан Адам паходзіць са слаўнага роду Перасвет Салтанаў гербу Сыракомля. Адвечным гняздом гэтай галіны Салтаноў былі і ёсць маетнасць Горкі,— даўней

у павеце Рэчыцкім, а цяпер Бабруйскім над ракой Арэсай. Адам радзіўся ў першай чвэрці XIX сталецця, вучыўся ў слуцкай гімназіі. У гімназіяльныя часы хоць быстратой лішне не выдзяляўся, але меў нахіл да літаратуры. Прабаваў пісаць вершы, але, сустрэўшыся з вострай крытыкай на свае польскія «трэны» [28], перакінуўся да пісання сатыры ў беларускай мове, што, трэба прызнаць, яму ўдавалася рабіць даволі гладка, аднак жа з гэтым крыўся і, чытаючы свае творы, выдаваў за чужыя, перапісаныя ім. Вышаўшы з гімназіі, здаецца, што саўсім закінуў свае літаратурныя спробы, прынамсі, ніколі не ўспамінаў аб іх. Ажаніўся дужа малады з Стэфаніей Баранцэвічанкай, асобай вялікага духу, дужа тактычнай і незвычайнага розуму. Нябожчык Адам бачыў высшасць духовую сваей жонкі і сам рад стушовываўся перад ёй, але і жонка мела той такт, уласцівы людзям выдатным, што ніколі свайго Адама не дапусціла да непрыстойнай ролі «мужа пад пантофлем». Жыццё іх плыло ціха і шчасліва. Ад малых дзён памятаю, што заўсёды гаворэна аб Адаме як аб дужа добрым, але крыху цяжкаватым чалавеку. Жыццё пана Адама можна прыраўняць да дня, ужо ж буднага, але каторы раніцай загарэўся чырвонай зоркай і да канца пагодна сышоў.

Солтан не меў ворагаў, не меў іх і Марка Узлоўскі — «пястун павету», Марачкам да смерці празываны. Арыгінальны ў манерах, адкрытага сэрца, шырокай веды, незвычайна здольны і добры, гэты чалавек на сваю бяду няўдачна ажаніўся. Двох людзей толькі знаў я, абдарэных такой памяццю, якую меў пан Марка Узлоўскі: Владыслава Войзбона і князя Дзівеева.

## *IX. П. П. Дашкевічу*

Аб стасунках маіх з Дашкевічамі многа было б гаворкі, але ўсяго казаць не гожа. Пан Ігнацы быў калісь у дужа цяжкім палажэнні, я памог яму, меў у мяне прытулак, з гэтага вывязалася інтрыга, каторая на нейкі час папсавала нашы стасункі. Цяпер ужо ўсё гэта мінула. Ён да мяне прыязлівы, бо ўсё выйшла яму на дабро, і прызнае мне рацыю, а я не маю да яго нічога, бо быў ён тады дужа яшчэ малады і непрактычны.

Цяпер залічаю абоіх п. п. Дашкевічаў да маіх наймілейшых знаёмых; ён — шанаваны і добры чалавек, яна — гожая і разумная кабета, каторая патрапіла як найлепей устроіць быт мужа і яго дому. Паміма асабістых яе дадатных старон, маю я яшчэ і іншыя на яе ласкі: 1-е тое, што яна — матка трох ладных дзяўчынак, дробязь гэта яшчэ, бо найстарэйшая толькі што пачынае быць падлёткам, але міленькія і, дасць бог, вырастуць на карысць нашага краю; кажу: на карысць, бо бачыцца мне, што з іх будуць «людзі» ў шырокім гэтага слова разуменні. Пасля п. Дашкевічовая, сястра Мерэсоў, людзей добрых, учынных вельмі і заўсёды вельмі ўплывовых (ведаю, як гэткі стасунак можа быць карысцен для маіх маладых прыяцелеў, бедных вучняў слуцкай гімназіі).

Корыбуты — Дашкевічы — добрае гняздо. Але гэта вымагае каментарыяў.

З геральдычнага боку кожны, хто «Корыбут», можна выводзіць род свой ад вялікіх князёў літоўскіх і беларускіх. Остафій Дашкевіч, пратопляста нашых Дашкевічаў, гэта герой Запарожжа, быў нешта як бы тварцом Казаччыны за

караля Стэфана Баторага [29], па ім род гэты красуе буйна, хоць неказіста (фамілія Дашкевічаў замешана была ў мужыцкія бунты за Небабы [30]) па вясковых закутках. Пад канец быту Рэчы Паспалітай выдзяляецца Ігнат (калі не памыляюся) Карыбут — Дашкевіч, каштэлян мсціслаўскі, выдатны праўнік. За цара Паўла ён быў замешан у справе Хамінскага і ўцярпеў разам з ім (іх мучылі ў сакрэтнай канцылярыі). Брат каштэляна, Падстолі Мінскі, быў чалавекам нікчэмным, сын Падстоляга, маршалак бабруйскі, у публічных справах быў цвёрды, але дома гвалтоўнік і авантурнік, як і яго два сыны Гектар і Тытус (сын гэтага апошняга — цяпер жывы — пан Ігнат). Цвёрдая школа, якую пан Ігнат адбыў пры бацьку, пакінула назаўсёды на ім глыбокі след, але такт жонкі і маетнасць ды дастаткі ўтварылі з пана Ігната чалавека, якіх дай нам Божа.

Успамянуўшы дзеі мяча, пераходжу да кудзелі.

Блізка сто гадоў таму былі на Падолі дзве паненкі каштэлянкі Снарскія. Адна з іх выйшла за багатага прамыслоўца барона фон Мерэс, а другую выкраў, бо яму яе не аддавалі, малады, прыгожы, але голы, як Ніоб, граф Вітгенштэйн фон Борлебург (пазней князь, фельдмаршалак), дзед шанаванага ў нашы часы князя Пятра Вітгенштэйна. Сорак гадоў таму сустракаем Мерэсоў у Случчыне. Былі яны на другім плане. Сам стары экспраўнік дзяржаўца Гаўрыльчыц, быў неяк у старане, рэй вяла сама пані Ружа з Тольвінскіх і жыўшы разам з імі кузын, ці, можа, і не кузын, Чапскі, палкоўнік былых войск польскіх (легіяніст). Чалавек, як кажуць, незвычайна мілы ў кампаніі. Розна аб

гэтым стасунку палкоўніка гаварылі людзі, але п. п. фон Мерэсы і так званы дзядуня Чапскі тварылі нераздзельную тройцу. Чысленае свае пакаленне п. Ружа дужа добра пакіравала, усім дала стараннае выхаванне і зашчапіла сямейную любоў. Старушку паню Ружу фон Мерэс пазнаў я пад канец яе жыцця. Акружана была пашанай патомства, дастаткам і чулай апекай. Родам была з Віцебшчыны.

На даканчэнне магу дадаць, што матка п. Ігната, Адэля з Грыневічаў, была дачкой падкаморага [31] Грынкевіча, вядомага сілача і авантурніка, а сястрой Тамаша, гэтаксама сілача, забітага ў 1863 г.

## *X. Літаратурнае апраўданне*

Праглядаючы мае вершы, Францішк Багушэвіч зрабіў увагу, што ў мяне не ўсюды бываюць уласцівыя беларускай мове акцэнты. На гэта я яму адпісаў:

У гаворцы ёсць ружніца
Між маею і Тваей:
Маей — пушчы, Птыч [33] граніца,
Ты — Панарскі салавей!..

Гэта значыць: у Беларусі ёсць многа асобных дыялектаў-гутарак, і ў гаворцы між Магілева над Днеправым Мозырам і Гродняй бывае вялікая розніца не толькі ў акцэнтах, але ёсць і многа цікавых правінцыяналізмаў. От, напрыклад, некалькі нашых палеска-беларускіх правінцыяналізмаў,— ручаюся, што іх у віленска-гродзенскай беларускай мове або саўсім не ўжываюць, або ўжываюць рэдка. «Нашчадзь» — патомства, будучае пакаленне; «нішком» — ціхачом, па-

крыёму, хаваючыся; «плён» — расток, малады белы карэньчык пры зярне і шмат іншых.

Мне перш за ўсё ідзе аб тое, каб выказаць, што я хачу, каб пачулі мысль маю і каб словы карэнныя беларускія пры помачы нашай літаратуры атрымалі як найшырэйшае абывацельства. І дзеля гэтага я не сцясняю свайго дыялекту, ужываючы словы і звароты агульнабеларускія. Гэтак паступаючы, я кладу ў літаратуру свой прыродны дыялект беларускай мовы, даючы найлепшае з яго. У канцы невядомай яшчэ, каторы дыялект беларускі пераможа. У Францыі — спярша дыялект правінцыі Lanque d'Oc меў перавагу ў французскай літаратуры, а пазней Lanque d'Oui — цяперашняя французчына. Гэта трэба памятаць і нашым літаратарам і пурытанізмам не забаўляцца!

## *XI. Спас 20/VII 1904*

«Прыйшоў Пятрок — апаў лісток; прыйшоў Ілля — апала два; прыйшоў Спас — усяму час».

Сягонняшні дзень умацаваўся ў маёй памяці: першы раз пачуў я, як да мяне сказана: «Дзеду, дзедку!» Было гэткае здарэнне: пад вечар зайшоў я да майго даўнага суседа, п. Сымона Легатовіча, і трапіў там на дажынкі. П. Сымон, маючы добрую грамаду работнікаў да аплаты і пачастунку, саваў каждаму ў рукі квіток на зароблены грошы і, нічога не кажучы, ішоў далей. Пісьменнага ў гэтай грамадзе нікога не было, а я апынуўся між сялянамі, дык пачалі спярша па аднаму, пасля грамадой звяртацца да мяне: «Дзеду, дзедку,— прачытайце!» Старасць міла з гэтым павітаннем мне ўсміхнулася;

збудзіўся добры гумар... Пайшоў шукаць я гожую паненку Маню Легатовічанку, каб «дзеўкі краснай ручкі белы» ўрачылі мой свежа атрыманы патэнт на старэчую павагу «Дзеда». Sclavus saltans [33], а аднак неяк міла,— чую ў сабе славяніна. Народ рабочы заўзята танцаваў у слаўнай залі Зарэцкага палацу, брала ахвота і мне патанцаваць, але ўражанні былі іншага зместу.

Зарэчча памятаю з тых часоў, калі я быў такі маленькі, што прысмакі мне на крэсле, а не на стале стаўлялі. Пасля не быў там лет колькінаццаць... Зарэчча — гэта толькі частка Глускага графства; атрымаў яго п. Кароль Нерэзыуш за дакананне вельмі цікавай справы, так званай эксдывізіі Глускай. Але, дзеля ўдзячнасці і пашаны да п. Кароля, раскажу аб ім асобна.

Герб Нерэзыушоў — гэта крыж і месяц маладзік — здаецца Czoryja. Апошняя з гэтага дому Станіслава Легатовіч пыталася ў мяне, ці не ведаю чаго аб яе родзе. От жа: паводле апавядання самога Кароля Нерэзыуша, быў ён рэгентам пры Навагрудскім судзе, пасля нейкі час працаваў у натарыуса і ўзяў пасля смерці дзеда майго, Юзефа Абуховіча, справы і маетнасць. Дзед мой сардэчна яго палюбіў, а св. памяці бабка мая цярпець яго не магла. Было гэта каля 1825 года, часы былі добрыя, і п.Кароль, «Нарулёнкам» празываны ад дзеда майго, добра ўладзіўшы свае маёнткавыя справы, хацеў выкупіць ад маршалка Філіпа Абуховіча Капцэвічы, адвечную Абуховічаўскую маетнасць, каб толькі дзед мой гэту маетнасць ад яго прыняў і прыпаручыў яму справу належачага нам Стальянскага спадку [34] па Бандзінеліх і зацверджанне графскага тытулу. Тут нахлынулі важнейшыя здарэнні:

выбухла паўстанне. На Беларусі азбраіваліся і па дварох муштраваліся (муштры адбываліся ў Маложэве, гэтая мясцовасць у хронікароў называецца Акунёўкай,— там Вітаўт [35] пабіў татараў, цяпер Акунёўка — ручаёк, аддзяляючы ўрочышча Маложэва ад вёскі Акунёўкі). Нехта непатрэбны падгледзіў гэтыя прыгатаўленні і даў данос. Падазравалі ў даносе чыноўніка п. Міткевіча і генерала Гатоўскага, але гэты апошні быў чалавек шанаваны, хоць маскаль, і адкрыта агрызаўся з дзедам маім. Міткевіч такжа меў добрую славу, дык, мабыць, нехта трэці паспяшаўся асцерагчы ўласці. Пасля гэтага даносу прыказана было капітану Бехамо арыштаваць майго дзеда, што прыйшлося рабіць аружнай рукой, бо люднасць сялянская стала адпорна, забарыкадавалася ў дварэ, з прыроды даволі недаступным, і пачалася страляніна. Забітых не было, але з абодвух старон некалькі душ ранена. П. Кароль скланіў тады дзеда да капітуляцыі, бо ўтрымацца доўга нельга было, а з глаўнага пляцу надышлі непамысныя весткі. Забралі тады старычка падкаморчыца, і хоць жыў яшчэ гады чатыры, але свабоды ўжо не бачыў.

Роля парламентара не прайшла п. Каролю насуха: казак, не пазнаўшыся на яго тагды святым і недатыкальным характары, сперазаў яго чатыры разы нагайкай, за што казака высеклі, а п. Каролю так з'яднала гэта маскоўскую старшызну, што яго прызналі адміністратарам ад правіцельства над маетнасцямі майго дзеда. З апякунства п. Нерэзыуш вывязаўся як найсумленней. Дзед мой вызнае гэта ў тэстаменце [36] і запісвае свайму «Нарулёнку» тысячу дукатаў.

У гэтым часе сталася нейкая таемная справа, аб пачатках каторай магу толькі дадумвацца і

дзеля гэтага буду гаварыць толькі аб скутках[37] яе.

Быў нейкі чалавек, бацька мой з нейкай трывогай называў яго «Пёровіч», а Нерэзыуш — «Пёрка, каторага я здаў у рэкруты», але гэнае пёрка, відаць, было ўстрэмлена ў нейкае балючае месца, бо п. Кароль не будаваў свайго палацу ў Зарэччы датуль, пакуль не даведаўся, што Пёркі ўжо няма на свеце. Сяляне яго вельмі ждалі, нейкія надзеі загараліся ў іх пры ўспамінах аб ім, але ўсё гэта пакрыта было таемнасцю. Пёровіч, уцёкшы з салдатаў, укрываўся; — начамі ён часам прыходзіў да майго бацькі, што зазвычай было прычынай вялікага перапалоху. Казаў заўсёды, што памсціцца на панох. Каля Солетнік часцей паяўляўся і там ён загінуў. Расказваюць: утапілі яго па загаду майго дзядзькі. Быў гэта, мабыць, чалавек незвычайны, калі, будучы банітам, вынятым з-пад права, праз 20 гадоў трымаў у гразе амаль цэлы павет. І хоць паходзіў з сялян, але быў чалавекам вельмі адукаваным, уроды гожай, мілы і красамоўны. Захаванне між сялянамі меў незвычайнае. Насіўся з нейкімі рэфарматарскімі планамі і для сваёй справы еднаў прыхільнікаў між сялянамі толькі. Па смерці Пёровіча яго рэфарматарскімі планамі зацікавілася жандармерыя, было следства. Сяляне адчапіліся нічога не веданнем, шляхта не рада ішла на гутаркі аб сваім ворагу. Следства скончылася зданнем у салдаты двох нічым нявінных сялян. Расказвалі сяляне ў вялікай тайніцы аб нейкіх «граматах», недзе пераховываных у вучнёў Пёровіча. За год 10—15 справа гэта саўсім заглохла.

Па дойсцю да поўналетнасці бацькі майго п. Нерэзыуш злажыў з сябе павіннасць апекуна

над Абуховічаўскімі маетнасцямі і прыняў інтарэсы маршалка Рудзееўскага (гэтага роду не трэба мяшаць з Радзееўскімі). П. Кароль ажаніўся з Ідаліей Юдыцкай, апошняй дзедзічкай [38] Глуска. Ключ Глускі быў Юдыцкімі вельмі абдоўжан і перайшоў ужо некалькі эксдывізій, але п. Кароль дагледзіў, што першая з гэтых эксдывізій, на каторай апіраліся ўсе пазнейшыя, мела нейкія нефармальнасці і не была зацверджана. Ён падняў гэтае пытанне і даў довад да ўтварэння эксдывізіі паправучай Глускай. Учасце ў ёй прынялі людзі вельмі часамі падозрэнай славы, як Юзеф Свіда, Ігнат Тукало (цётачна-Зродны брат маей бабкі Альжбеты з Венцлавовічаў Естковай. Естко — экслегіяніст, каторы здабыў на вайне разам з лаўрамі Напалеонскімі грамадную суму напалеондараў) — і іншыя, а найгоршым быў маршалак Бжозоўскі, банкарт аднаго з Юдыцкіх, каторы адпрысягнуў праўнасць скрыптаў [39] натуральнага свайго бацькі, выданых ахмістрыні Бжозоўскай, гэта значыць, сваёй матцы, аб каторых агульнавядома, што былі фікцыйныя. Гэты Бжозоўскі быў бацькам знанага за нашых часоў Міхаіла Бжозоўскага (рожд. са Здзехоўскай), каторы слыў з бясчэльнасці і досціпу. Хацеў яго адзін раз дакарыць п. Юзеф Свіда і, папярэдзіўшы аб гэтым чысленую кампанію, кажа да ўхадзячага Бжозоўскага: «Як маешся, пане Юдыцкі?» — «Здароў, гадуюся, пане Ванковіч!» — адказаў Бжозоўскі. Мне здаецца, што лепей зрэзаць не можна! Прыпамінае мне гэта анекдотку, чутую ў Францыі: кароль Генрых IV сустрэў нейкага шляхціца, саўсім да сябе падобнага, дык, стукаючы яго па плячу, пытаецца: «Скажы, васпан, ці твая матка была пры двары майго бацькі?» Шляхціц

адказвае: «Не, найяснейшы каралю, мой бацька быў лёкаем пры яе міласці каралеве, матцы вашай міласці».

Але, вяртаючыся да Нерэзыуша і эксдывізіі, скажу, што п. Кароль з гэнай мутнай вады ёмкую рыбу вылавіў: суд абмінуў крэдытароў Юдыцкіх, Фастовічы выдзеліў Бжозоўскаму, а Зарэчча асталося для п. Рудзееўскай і перайшло да Нерэзыуша невядомым нейкім парадкам,— кажу невядомым, бо памятаю гэткую справу.

Зімою 1847 года адбывалася вельмі пышнае вяселле панны Анелі Естко, дачкі Якуба. Была гэта багатая едыначка, свецка адукаваная, саўсім прыстойная. Я спадзяваўся для яе бліскучай партыі, тым часам яна выйшла за Оттона Ёдку; чалавек ён быў не быстры, але добры. Пан Якуб Естко быў гэта чалавек багаты, паважаны і з шырокімі стасункамі, меў нейкі вышэйшы ўрад ад выбараў і быў пры гэтым адным з глаўных мецэнатаў Едноты Кальвінскай; меў сваякоў, прыяцелеў і знаёмых даволі, дык і паклікаў усіх на вяселле сваёй едыначкі. Сярод марозаў і бур вельмі вострай зімы 47-га года тры, нават чатыры губерні Беларускія рушылі на вяселле ў Турына, у Ігуменскі павет. Біскуп номінат мінскі кс. Рава прыехаў даваць шлюб. Між іншым быў гэта адзін з найбольш агранічаных ксяндзоў у Мінскай дыцэзіі [40]. Цар Мікалай хацеў яго канечна зрабіць біскупам і тры разы прадстаўляў Сталіцы Апостальскай, але дармо. На шлюбе кс. Рава меў мову, пачынаючуюся ад слоў: «Рука руку мые, а якая ж міласць ёсць між рукамі? Нага нагу падпірае, а якая ж міласць паміж нагамі?» і г. д.

Дык вяселле Турынскае было вельмі гучнае. Паўтараста асоб з розных старон сабралася, і

цэлы тыдзень банкетавалі, да нядаўна яшчэ можна было чуць розныя аб ім успаміны. Само сабой, калі далей буду спісываць свае ўспаміны, то яшчэ калісь нешта аб гэтым вяселлі напішу, бо мела яно шмат чаго цікавага з абычаёў вясельных даўных, што цяпер ужо пазабыты. На вяселлі былі і бацькі мае. Была такжа і грабіна [41] Юдыцкая з дачкой сваёй, паняй Рудзееўскай. Так мая матка, як і пані Юдыцкая, былі Есткоўны з дому і сустрэліся ў Турыне па доўгім часе разлукі з сабой. Вяртаючыся з вяселля, заехаліся яны ў Калатычы і тут найнеспадзяванне для сябе даведаліся, што Зарэчча не іх уласнасць, а што яно належыць да Нерэзыуша.

## *XII. Дзяды*

Увосені народ наш святкуе паганскае яшчэ свята Дзядоў. Хрысціянізм заўсёды шанаваў гэтае свята, каторае ўлівала народу веру ў бяссмерце душы. Вёскі, не зважаючы на непагадзь, пануючую ў гэтым часе, маюць святочны выгляд. Сцены ў гасподах вымыты да бела, каб душы дзядоў маглі з уцехай прыбліжацца да вокан і ўглядацца радасна на бяседуючых сваіх нашчадкаў. Мыслі кружацца і налятаюць, як чалавек аб гэтым падумае: можа гэтаксама налятаюць і кружацца наўкол духі дарагіх нашых нябожчыкаў? De Châteaubriand [42] заклінае цені каралёў французскіх, каб не падходзілі да занечышчанай магілы ў S-t Denis і каб не заглядалі ў змарнаваную бацькаўшчыну. Загадвае каралю засягаць муравы вясковых магілак.

Сягнуўшы мыслю, сколькі ж гэта бачыцца сяліб сягоння апаганеных, сколькі ж гэта дзя-

доў не мае па што заглядаць у дамовыя вогнішчы?! Сколькі ж гэта дзядоў не пазнала б сваёй нашчадзі на тэй зямлі, дзе спачываюць іх косці! Я, дзеля пашанавання сягонняшняга вечару дзядоў, выйшаў на мост, каб падумаць аб памёршай радзіне і прыяцелях. Я саўсім спакоен, нішто маіх думак не трывожыць. Няхай жа думкі мае будуць трызнай хаўтурнай дзедаўскай, маім антэнатам [43].

Прыпамінаецца мне адно здарэнне з далёкай маей мінуўшчыны. Было гэта ў Францыі, з паміж маладзёжы я адзін быў з Беларусі, дык злажыўся праект, што я павінен уладзіць трызну Дзядоў. Ахвоча на гэта прыстаў я і выступіў з пачастункам. Былі пячоныя гусі з грыбкамі, а замест крупніку — добра запраўленае le vin chaud [44]. Гэта апошняе так гумар успасобіла, ■ часы былі поўны ясных надзей, што пастанавілі мы зрабіць ваенную муштру, і то не пяхоты, а кавалерыі. Каждае крэсла сталася жэрабцом, капітан Ільдэфонс Коссілоўскі (эмігрант) прыняў каманду, а Валер'ян Калінка, пазнейшы ксёндз і гісторык, гарцаваў наперадзе нас. Суседкі мае думалі, што дом зваліцца, а было гэта на чацвёртым паверсе. Назаўтра меў я візыту паліцыі, але я ўвесь гэты гармідар вытлумачыў як рэч абрадавую, патрыятычную, і на гэтым вышло ўсё.

# ТОДАР КУЛЕША

## *Пісьменнік-дэмакрат Альгерд Абуховіч*

У 1893—1894 годзе, калі я быў яшчэ вучнем трэцяга ці чацве́ртага класа Слуцкай гімназіі, мой бацька, вярнуўшыся са службы ў паштова-тэлеграфнай канторы, дзе ён працаваў дробным служачым, папярэдзіў маю маці, што вечарам у нас будзе госць, якога трэба ветліва прыняць.

— Ты, пэўна, чула пра пана Абуховіча? Паны лічаць яго дзіваком, бо ён адрокся ад маёнтка і сям'і, жыве на свой уласны заработак, знаецца з простымі людзьмі і нават піша вершы на простай мове, мове мужыкоў і рамеснікаў. Ён праз сваіх знаёмых гімназістаў даведаўся, што нашы хлопцы абодва вучацца ў гімназіі, і прыйшоў да мяне ў кантору, каб са мною пазнаёміцца, і вельмі мяне і цябе хваліў за тое, што мы так дбаем пра навучанне сваіх дзяцей... Я запрасіў да нас гэтага прыяцеля працоўнага народа, добрага і прыязнага людзям чалавека. Дык, калі ласка, паклапаціся!..

А вечарам таго дня, у агародчыку ля дома, дзе мы жылі, за чайным сталом з рознай закускай, мы мелі госцем гэтага «дзівака» і слухалі яго, Альгерда Абуховіча, вершы на беларускай мове, пераважна байкі. У іх пісьменнік умела, у трапных выразах і словах высмейваў паноў і падпанкаў, заможных сялян і фанабэрыстых шляхцюкоў, ксяндзоў і царскіх «чынадралаў»... Бацька з мат-

каю з захапленнем слухалі яго творы і часта дружна смяяліся.

Я сядзеў і слухаў, як зачараваны, бо ўпершыню з вуснаў пана, хаця і ў паношанай вопратцы, прытым ад чалавека ўжо са срэбрам у валасах чуў «дзіва» — мілагучныя вершы на той мове, якой я, жывучы да дзевяці гадоў у сям'і дзеда і бабкі, карыстаўся, якую я лічыў прыгожай і якую я ў гімназіі бараніў перад сваімі аднакласнікамі, што яе ганілі і высмейвалі. Пісьменнік у маіх вачах цяпер паўставаў як абаронца мовы свайго народа, як вястун і чараўнік роднага слова.

Помніцца, што яшчэ разы са два Альгерд Абуховіч быў наведвальнікам нашай сям'і, і кожны раз пасля слухання яго баек, сатыры і вершаў мацнела ў мяне любоў да роднай мовы, і я ўжо не са слязьмі ў душы, а з гнеўнай упэўненасцю абараняў сваю родную мову, называючы тых, хто ставіўся з пагардай да яе, здраднікамі свайго народа.

Пісьменнік цікавіўся нашымі поспехамі ў вучобе і, калі даведаўся, што брату цяжка даецца французская мова, запрапанаваў, каб наступным летам мой брат хадзіў да яго тры разы на тыдзень займацца гэтай мовай. Абуховіч ад платы адмовіўся, хаця за іншых сваіх вучняў грошы атрымліваў, бо на гэты заработак ён і жыў. Тут трэба сказаць, што пісьменнік, як зазначала гаспадыня пакою, які ён наймаў у старэнькай Федаровіч (на Іванаўскай вуліцы), у некаторыя месяцы траціў на свой абед толькі пяць капеек. Мае бацькі ледзьве атрымалі згоду Абуховіча на замену грошай за вучобу брата натурай. Мы мелі добры агарод, курэй, бацька ставіў венцяры на рыбу, і матка наша стала перадаваць Федаровічысе, якая варыла пісьменніку, патрэбную для яго гародніну,

яйкі, а пры бацькавай удачы — і рыбу. А калі пад вёскаю Іграявым мы з бацькам лавілі ракаў ці калі хадзілі па грыбы, стол пісьменніка ўзбагачаўся гэтымі прадуктамі.

Памятаю, у пісьменніка часта бывалі Кавалеўскі, Зянковіч, Вострасайліны [1] (імёны іх і як іх зваць па бацьку — не памятаю), Аляксандр Ярэміч *[2], Іван Чудоўскі, Пятро Карповіч **[3], Аляксандр Тэрэль [4], адзін з братоў Мігаёў і іншыя. Часцей за ўсё вяліся размовы пра ўзаемаадносіны ў нашай гімназіі вучняў з настаўнікамі, пра забароненыя для чытання гімназістам кнігі, пра паўстанне 1863 года на Беларусі і бясконцыя размовы пра класікаў рускай, польскай і сусветнай літаратур.

Абуховіч вельмі добра валодаў французскай, італьянскай, англійскай і нямецкай мовамі. Лёгка чытаў на іспанскай мове.

Пры спрэчках, каб успомніць якое-небудзь месца з таго ці іншага твора класіка, Абуховіч падыходзіў да сваёй вялікай шафы з кніжкамі, хутка знаходзіў, што было патрэбна, і цытаваў цікавае ўсім месца.

Узнікла размова і пра мажлівасць для беларускай мовы стаць літаратурнай моваю, здольнай пры перакладах з іншых моў перадаць самыя тонкія адценні чалавечых пачуццяў і разуменняў. Памятаю, што Ярэміч, Карповіч і Зянковіч згаджаліся з Абуховічам, што беларуская мова зусім не бедная, наадварот, вельмі багатая словамі з рознымі адценнямі іх сэнсу. Іншыя ж мала верылі ў здольнасць роднай мовы.

---

* Потым вядомы хірург, памёр на Далёкім Усходзе.

** Пазней забіў міністра Багалепава. Загінуў пры звароце з Англіі на параходзе ад нямецкай міны.

На працягу некалькіх гадоў свайго знаёмства і наведвання пісьменніка я меў магчымасць паслухаць пераклады Абуховіча з «Фаўста» Гётэ, з «Разбойнікаў» Шылера, некаторых вершаў Віктора Гюго, Байрана, Дантэ. Уражанне ад пачутага ў мяне было моцным.

У пісьменніка склалася прывычка класці ў кнігу побач з арыгіналамі і яго пераклад. Гэта заўважылі, акрамя мяне, Ярэміч і Карповіч, і яны часта прасілі Абуховіча пачытаць свае пераклады і спасылаліся пры гэтым:

— У вас жа шмат закладак! Значыць, ёсць што нам прачытаць!

Трэба таксама зазначыць, што ў Абуховіча былі пераклады з Пушкіна, Лермантава, Адама Міцкевіча, М. Канапніцкай, Кандратовіча-Сыракомлі.

Нам, моладзі, вельмі падабаліся яго пераклады верша Лермантава «И скучно, и грустно» і асабліва пушкінскіх «Деревня»[5] («Приветствую тебя, пустынный уголок») і «Вновь я посетил тот уголок».

Калі Абуховіч усхвалявана прачытаў нам свой пераклад пушкінскага «Ариона» («Нас было много на челне»), ён успомніў і пра падзеі з паўстання 1863 года на Міншчыне, удзельнікам якіх быў сам[6]. Моцнае ўражанне пакінула на ўсіх нас яго апавяданне пра дзяўчыну, якая была фельчаркай-хірургам у іх паўстанцкім атрадзе. Пасля ўдачы пад адным мястэчкам на паўночнай Случчыне паўстанцы адыходзілі ў лясы Ігуменшчыны. Аднак каля павятовага тракта ар'ергард іх быў атакаваны казачай паўсотняю. Калі быў паранены камандзір ар'ергарда, фельчарка кінулася да яго, каб перавязаць. Казакі не паглядзелі, што на яе грудзях, рукавах і касынцы былі чырвоныя крыжы. Дзяўчына была смяртэльна паранена і ўпала.

Каб не даць казакам захапіць іх абаіх у палон, паўстанцы падцягнулі да месца бою ўсе свае сілы і вялі такі актыўны агонь па казаках да самага цямна, што здолелі вынесці абаіх таварышаў, праўда, ужо мёртвых. Гераіню пахавалі на высокім беразе Бярозы.

Абуховіч лічыў: няўдача паўстання 1863 года заключалася ў тым, што землеўласнікі баяліся ўзняць на паўстанне беларусаў-сялян, бо тады трэба было б аддаць ім зямлю.

Студэнтам[7] я рэдка наведваў Слуцк. З ліста сваёй маці я дазнаўся, што Абуховіч памёр.

Калі ў 1921 годзе быў у Слуцку, ад сваёй маці і ад дачкі Казіміра Аколава сабраў некаторыя даныя пра пісьменніка. Вось яны.

Альгерд Абуховіч быў сынам заможнага землеўласніка на Случчыне. Разам з Казімірам Аколавым ён прымаў удзел у паўстанні 1863 года. Пасля адбыцця кары і вяртання ў сям'ю ён паставіў пытанне, каб зямлю аддалі былым прыгонным — сялянам. Супраць Альгерда Абуховіча ўзнялася яго сям'я, родная сястра, што замужам была за Ёдкам, таксама і іншая радня. Паколькі Альгерд Абуховіч быў цвёрдым у сваім рашэнні, яму, пасля вострых спрэчак, прыгразілі абвяшчэннем яго вар'ятам. У тыя часы такія справы не былі навіною, і царская адміністрацыя падтрымлівала тых, хто хацеў уціхамірыць падобных бунтароў супраць «асноў грамадскага жыцця». Тады Альгерд Абуховіч выбраў са сваёй бібліятэкі самыя любімыя кнігі і пакінуў родны дом. Перш ён пабыў у свайго прыяцеля Расудоўскага (маёнтак Курганы), потым перабраўся ў Слуцк, каб карміцца там урокамі.

Час ад часу яго наведвалі доктар Янушэвіч, Расудоўскі, Машэўская, Узлоўская. За 18 гадоў

сваркі з сястрою паміж ёю і братам не было сустрэч, і толькі калі ўжо Альгерд цяжка захварэў, яна два разы наведала яго. Цяжкая хвароба абарвала жыццё Альгерда Абуховіча. Жонка яго памерла ў Пецярбургу ад сухотаў значна пазней за яго. Глуханямая дачка пісьменніка жыла ў цёткі ў Пецярбургу.

Сваю бібліятэку і рукапісы А. Абуховіч аддаў Казіміру Аколаву, які жыў тады ў Слуцку і часта наведваў яго, асабліва калі ён захварэў. Па словах Федаровічыхі, кнігі і пісьмовы стол пасля пахавання прыяцеля Аколаў перавёз да сябе. Я спадзяваўся, што хоць што-небудзь магло застацца ад бібліятэкі Абуховіча, і прасіў дазволу дачкі Казіміра Аколава агледзець свіран, у якім была складзена бібліятэка. Аднак ніякага следу ад яе я там не знайшоў.

Дачка Казіміра Аколава расказвала, што яе брат, які працаваў у Варшаве, запрасіў бацьку прыехаць жыць да сябе. Казімір Аколаў, забраўшы з сабою бібліятэку і рукапісы Абуховіча, пераехаў са Слуцка ў Варшаву, дзе ў 1913 ці 1914 годзе і памёр. Разам з кнігамі, напэўна, у Варшаву трапілі і шматлікія закладкі — пераклады пісьменніка. Было б, вядома, вялікаю ўдачай, калі б цяпер пры дапамозе польскай Акадэміі навук і польскіх пісьменнікаў удалося знайсці ў Варшаве Аколавых, бібліятэку і рукапісы Альгерда Абуховіча [8]. [...]

Я ў 1920 годзе знайшоў на каталіцкіх могілках Слуцка магілу А. Абуховіча з невысокім каменным помнікам, на якім быў просты надпіс з імем і прозвішчам пісьменніка і датамі нараджэння і смерці. Як зойдзеш праз вароты могілак, яго магіла чацвёртая па левы бок у крайнім радзе, побач з магілаю доктара гімназіі Машэўскага.

# МЕТРЫЧНЫ ВЫПІС АБ НАРАДЖЭННІ

Са справы Мінскай дваранскай дэпутацкай зборні пра дваранскае паходжанне роду Абуховічаў (ЦДГА БССР у Мінску, ф. 319, воп. 2, спр. 2292, л. 23).

Выпись метрики о рождении и крещении двуименного Ольгерд[а] Яков[а], сын[а] Рихарда и Каролины Обуховичов, из подлинной книги Глусского римско-католического приходского костела, страницы 17, требующей стороне выдана ...[1]

*Перевод с польского*

Из Колатич. 1840 года июля 27 дня ксендз Петр Конто[но]-вич [2], викарный Глусского костела, крестил самою только водою по опасности жизни ребенка, нареченного двумя именами Ольгерд Яков, сына благородных Рихарда и Каролины урожденной Эстко Обуховичов, законных супруг[ов], судей Мозырского уезда, родившегося во дворе Колатичах 25[-го] числа текущего месяца и года. Восприемниками были коллежский советник и кавалер доктор Бобруйского уезда Август Погль с женою судьи того уезда г[оспожо]ю Елисаветою [3] Эстковою, сопровождали благородный Иван Недзведский с благор[одною] Анелею Погоржельской, девицею. С польским верно: бывший Минской палаты гражданского суда переводчик тит. совет. Поплавский.

Что сия метрика о крещении Ольгерда Якова сына Рихарда и Каролины Обуховичов с подлинною Глусского костела, бывшею в рассмотрении

комиссии, высочайше учрежденной, верна и имеет законную достоверность, в том с приложением костельной печати собственноручно свидетельствую.

*Числа 30*
*месяца апреля года 1857-го*
*Ксендз Викентий Томашевич,*
*настоятель костела Глусского*
*и депутат уезда Бобруйского*[4]

# КАМЕНТАРЫІ

*Ваўкалак (с. 15); Старшына (с. 16)*

Упершыню — «Беларускі каляндар» на 1915 г., Вільня, 1914.

Друкуюцца па кн.: Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя. Мн., 1956. С. 257—259.

*Суд (с. 18); Воўк і лісіца (с. 19)*

Друкуюцца па кн.: Чарняўшчынка Л. Родны край, дзе ўпершыню апублікаваны.

[1] Нішком — хаваючыся.

*Дума а Каралю XII (с. 20)*

Друкуецца паводле газ. «Гоман», 1916, № 49, 1 жніўня, дзе ўпершыню апублікавана.

*З папераў Альгерда Абуховіча (с. 22)*

Упершыню — газ. «Гоман», 1916, № 33—40 і № 49.
Друкуецца па кн.: Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя. С. 260—278.

[1] *Фарысія* — памочнік кучара.

[2] *Груд* — тут у сэнсе ўзгорак або невялікі астравок.

[3] *Байдак* — барка.

[4] Цяпер вуліца імя У. І. Леніна.

[5] *Пушчык* — Пушчын Міхаіл Іванавіч (1800—1869) — капітан лейб-гвардыі, удзельнік паўстання дзекабрыстаў.

[6] Былі ў зажыласці з самім папам — г. зн. жылі з папам у добрых адносінах.

[7] *Банкарт* — незаконнанароджаны.

[8] *Парох (польск.)* — духоўны кіраўнік парафіі, г. зн. царкоўнага прыхода.

[9] Tális est mutatio rerum *(лац.)* — так змяняюцца рэчы.

[10] *Ачыншаваць вёску* — з барщчыны перавесці на чынш (узнос, які плацяць уладальніку зямлі ў тым выпадку, калі зямля перадаецца арандатару ў бестэрміновае спадчыннае валоданне).

[11] *Кальвінізм* — пратэстанцкае веравучэнне, якое ўзнікла ў XVI ст. у выніку Рэфармацыі.

[12] *Масоны* — ад фр. frans maçon (вольны каменшчык) — прыхільнікі рэлігійна-этычнай плыні, якая ўзнікла ў Англіі ў пачатку XVIII ст.

[13] *Кавур,* Камілло Бензо (1810—1861) — дзяржаўны дзеяч і дыпламат П'емонта (Сардзінскага каралеўства) і Італіі перыяду яе нацыянальнага аб'яднання, ідэолаг і лідэр ліберальна-манархічнай буржуазіі і ліберальнага дваранства, якое ішло за буржуазіяй.

[14] *Sur le tapis (фр.)* — тут у сэнсе прадмет усеагульнага абмеркавання або размоў.

[15] *Робесп'ер* — Рабесп'ер Максімільен Мары Ізідор (1758—1794) — дзеяч Вялікай французскай рэвалюцыі канца XVIII ст.

[16] *Шамбелян* — камергер.

[17] *Касцюшка,* Тадэвуш (1746—1817) — кіраўнік нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. у Польшчы, на Беларусі і Літве.

[18] *Баніта* — выгнаннік.

[19] Pielgrzymki z Dobromila *(польск.)* — Пілігрым з Доброміля.

[20] Тут памылковая дата. Аналагічная памылка і ў раздзеле «Спас». Трэба чытаць 4/IV 1894. (Гл. кн.: Родчанка Р. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі. Мн., 1984. С. 16—20).

[21] Plet fond *(фр. скажонае)* — столь.

[22] Дожы *(гіст.)* — галоўныя кіраўнікі рэспублікі ў сярэдневяковай Венецыі і Генуі.

[23] *Super aspidem et basiliscum ambulabo et conculcabo draconem et bovem (лац.)* — наступлю на аспіда і базіліска і патапчу дракона і быка.

[24] *Et Petri et mihi (лац.)* — і Пятру і мне.

[25] *Амбасадар (польск.)* — пасол.

[26] *Ян III* (Сабескі) — польскі кароль.

[27] *Здарэнне 63 году* — маецца на ўвазе паўстанне 1863 г.

[28] *Трэны (польск.)* — элегіі.

[29] Стэфан Баторы (1533—1586) — польскі кароль (1576—1586).

[30] *Небаба* — Нябаба Антон (г. н. невядомы — памёр у 1648 г.) — кіраўнік казацка-сялянскага атрада, на Беларусі ў вызваленчую вайну ўкраінскага і беларускага народаў 1648—1654 гг.

[31] *Падкаморы (польск.)* — саноўнік.

[32] *Птыч* — Пціч, левы прыток Прыпяці.

[33] *Selavus saltans (лац.)* — нявольнік, які танцуе.

[34] *Спадак* — спадчына.

[35] *Вітаўт* (1350—1430) — вялікі князь літоўскі з 1392 г.

[36] *Тэстамент* — завяшчанне.

[37] *Аб скутках* — аб выніках.

[38] *Дзедзічка* — наследніца маёнтка.

[39] *Скрыпты (лац.)* — дакументы.

[40] *Дыцэзія (польск.)* — дысцэзія, біскупства.

[41] *Грабіна (польск.)* — графіня.

[42] De Châteaubriand — Шатабрыян дэ Франсуа Рэнэ (1768—1848) — французскі пісьменнік і палітычны дзеяч, прадстаўнік рэакцыйнага дваранскага рамантызму.

[43] *Антэнат (польск.)* — продак, прашчур.

[44] Ze vin chaud *(фр.)* — цёплае віно.

*Тодар Кулеша. Пісьменнік-дэмакрат*
*Альгерд Абуховіч (с. 55)*

Друкуецца паводле час. «Беларусь», 1958, № 3, с. 28, дзе ўпершыню апублікаваны.

*Тодар Кулеша* — Язэп Лявонавіч Дыла (1880—1973) — беларускі грамадскі дзеяч і пісьменнік. У 1919 г. быў у складзе першага Беларускага савецкага ўрада, камісар працы. У 20-я гады займаў адказныя пасады ў дзяржаўных органах БССР і Інбелькульце. З 1931 г. жыў у Саратаве. Аўтар п'ес, аповесцей, успамінаў і літаратурна-крытычных артыкулаў.

Свае ўспаміны Тодар Кулеша (Язэп Дыла) пісаў праз 60 гадоў пасля смерці Абуховіча-Бандынэлі, і ў іх не маглі не трапіць некаторыя недакладнасці. Так, аўтар успамінаў сцвярджае, што жонка Абуховіча-Бандынэлі памерла ад сухотаў значна пазней за яго. Сам жа Альгерд Рышардавіч у сваіх мемуарах у раздзеле «Мая жонка» сцвярджае, што яго жонка памерла

ў 1873 годзе. Магло здарыцца так, што гэта недакладнасць з'явілася пры падрыхтоўцы да друку ўспамінаў. Рэдакцыйны работнік мог слова «раней» прачытаць як слова «пазней». Гэта верагодна, бо почырк у Язэпа Дылы ў апошнія гады быў вельмі неразборлівы.

Дакументальна пацвярджаецца і тое, што ў Альгерда Абуховіча была родная сястра. У справе аб дваранстве Абуховічаў, якая захоўваецца ў Гістарычным архіве БССР (ф. 13, справа 1230), ёсць копія пасведчання аб яе нараджэнні. Звалі сястру пісьменніка Каралінай Анэляй. Яна была на 19 гадоў маладзейшая за брата (нарадзілася ў 1859 годзе).

Тодар Кулеша (Язэп Дыла) сцвярджае ў сваіх успамінах, што Альгерд Рышардавіч сваю бібліятэку і рукапісы аддаў Казіміру Аколаву. Гэта не пацвярджаецца пошукамі Адама Мальдзіса ў Польшчы і маімі пошукамі ў Слуцку. Бібліятэка пісьменніка і яго рукапісы захоўваліся на гарышчы дома Хведаровічаў да пачатку 30-х гадоў. Аўтар успамінаў спасылаецца на Хведаровічыху, якая яму сказала, што бібліятэка і рукапісы пісьменніка трапілі да Аколава. Хведаровічыха магла такое сказаць Я. Дылу, але гэта не была праўда.

Да заўважаных мною недакладнасцей ва ўспамінах Тодара Кулеша (Язэпа Дылы) адносіцца і яго сцвярджэнне ў канцы ўспамінаў аб тым, што на помніку, які стаіць на магіле пісьменніка, ёсць даты яго нараджэння і смерці. У сапраўднасці на помніку ёсць толькі дата смерці.

[1] *Вострасайліны* — браты Вострасабліны.

[2] *Ярэміч Аляксандр* (памёр каля 1923 г.) — хірург, доктар медыцынскіх навук. (Гл. пра яго: Родчанка Р. Паплечнікі Альгерда Абуховіча. Літаратура і мастацтва, 1967, 4 красавіка.)

[3] *Карповіч* Пётр Уладзіміравіч (1874—1917) — рэвалюцыянер-тэрарыст. Адзін з арганізатараў Гомельскага камітэта РСДРП, потым зблізіўся з эсэрамі.

[4] *Аляксандр Тэрэль* — Аляксандр Пярэль (памёр у 1946 г.).

[5] У часопісе «Вёска».

[6] Дакументальных звестак пра ўдзел А. Абуховіча ў паўстанні 1863 г. пакуль што не знойдзена.

[7] Я. Дыла вучыўся ў Юр'еўскім ветэрынарным інстытуце ў 1899—1903 гг.

[8] Пра пошукі архіва Абуховіча ў Польшчы гл.: Мальдзіс А. Падарожжа ў XIX стагоддзе. Мн., 1969. С. 174—175.

*Метрычны запіс аб нараджэнні (с. 60)*

Друкуецца па кн.: Пачынальнікі. З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст. Мн., 1977. С. 444.

[1] Апушчаны польскі тэкст.

[2] Папраўлена паводле польскага тэксту.

[3] У дакуменце: Елисафетою.

[4] Бабруйскага пав. Мінскай губ., цяпер Глускага р-на Магілёўскай вобл.

# ЗМЕСТ

*Литературно-художественное издание*

*АЛЬГЕРД АБУХОВИЧ*

(Альгерд Яков Ришардович
Абухович-Бандинелли)

**СОЧИНЕНИЯ**

Минск,
издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

*АЛЬГЕРД АБУХОВІЧ*

(Альгерд Якаў Рышардавіч
Абуховіч-Бандынэлі)

**ТВОРЫ**

Рэдактар *В. М. Хлебавец*
Мастак *А. У. Васільеў*
Мастацкі рэдактар *В. А. Губараў*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *К. У. Дэмітрыенка*

ІБ № 3615

Здадзена ў набор 14.05.90. Падп. да друку 04.01.91. Фармат 70×90 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Ум. друк. арк. 2,34+0,29 укл. Ум. фарб.-адб. 2,78. Ул.-выд. арк. 2,54. Высокі друк. Тыраж 3100 экз. Зак. 401. Цана 60 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па друку. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа.

**Абуховіч А.**

А17 Творы/Уклад., прадм. і камент. Р. В. Родчанкі.— Мн.: Маст. літ., 1991.— 61 с., [4] л. іл., партр.

ISBN 5-340-00840-1.

Абухович А. Сочинения.

Альгерд Абуховіч (1840—1898) — адна з самых каларытных постацяў беларускай літаратуры XIX стагоддзя. Нарадзіўшыся ў радавітай дваранскай сям'і, ён, аднак, становіцца «мужыцкім» пісьменнікам, удзельнічае ў паўстанні 1863 года, адбывае катаргу ў Сібіры. Кніга выдаецца да 150-годдзя з дня нараджэння пісьменніка.

А $\frac{4702120106—035}{М 302(03)—91}$ БЗ 90—90 ББК 84Бел1